Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 4

20 студзеня 1927 г.



МЕНСК





## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сэсіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнографічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

## Ранішняе пасяджэньне VI Сэсіі ЦВК.

*20 студзеня.*

Пасяджэньне адчынілася а 10 гадзіне.

*Старшыня—тав. Чарвякоў А. Г.*

Старшыня: Пасяджэньне адчыняецца. У парадку дня спрэчкі па дакладу т. Васілевіча і садакладу т. Радус-Зяньковіча. Слова ў парадку спрэчак мае тав. Козыраў.

Тав. Козыраў: Дзевяць год прайшло ўжо з пачатку рэволюцыі. За гэты час прышлося шмат перажыць, і калі ўсё гэта апісаць, дык можна было-б напісаць цэлыя томы. Але ўсё-ткі, пад кіраўніцтвам нашае рабоча-сялянскае Комуністычнае партыі мы жывём у Беларусі ўжо 5 год і вышлі на шлях цьвёрдага будаўніцтва; мы павінны былі ўжо дасягнуць пэўных вынікаў за гэты час. Але ўсё-ткі мы бачым яшчэ шмат недахватаў. Зразумела, у ранейшыя гады нельга было ўсё гэта ўлічыць і задаволіць, але мы бачым, што і ў сучасны момант ёсьць шмат недахватаў.

Як відаць з дакладу Наркамфіна, наогул у рэспубліканскім маштабе ёсьць шмат недахватаў: і дэфіцытнасьць бюджэту, і недаборы, і рознага роду іншыя недахваты; а калі паглядзець на акруговыя і раённыя бюджэты, дык там недахватаў яшчэ больш. Усюды адчуваецца недахват: і ў шляховым будаўніцтве, дзе масты і шляхі акруговага і раённага значэньня папсаваны, і ў школах, і больніцах, а таксама і ў іншых пытаньнях гаспадарчага будаўніцтва.

Час ужо падыходзіць нібы да таго, каб гэтыя недахваты выправіць, але мы стаім на месцы, як кепскі конь з возам, загразшы ў балоце, і мала пасоўваемся наперад. Мы выхад з становішча бачым у тым, што-б прасіць датацыю ў Саюзу. Нам яе, зразумела, дадуць, мы ў гэтым упэўнены, таму што наш край больш другіх пацярпеў; але ці заўсёды нам будуць даваць, за гэта мы ня можам паручыцца, бо ўрэшце мы ўсё-ткі павінны падыходзіць да таго, каб наша гаспадарка ў рэспубліканскім маштабе апраўдвала сама сябе без датацыі і стала-б бездэфіцытнай. Нам трэба прымаць якія-небудзь меры, каб мы маглі абыходзіцца сваімі ўласнымі зваротамі. Тут тое самае, як з возам, загразшым у балоце са слабым канём: трэба яму дапамагчы выбрацца на цьвёрды грунт, а ўжо далей конь пойдзе сам,—ня ўсё-ж хадзіць ззаду і падпіхаць.

У нас усё-ж такі ёсьць яшчэ пакуль што многа хібаў у бюджэтнай рабоце, і мы часта ня ўсе хібы яшчэ выкрываем. Вось, напрыклад, таварыш Васілевіч казаў, што трэба паднацiснуць на заплату нядоімкаў па падатку. Але як-жа падыходзіць да гэтага націску? Мы бачым, што падыходзяць часта няправільна; дзе трэба было-б расьсьледваць, там гэта ня робіцца. Гэтыя няправільнасьці трэба расьсьледваць у далейшым. Бо гэта пытаньне якасьці нашай работы. Напрыклад, трэба ставіць пытаньне аб тым, каб велічыня падатку вылічалася не па колькасьці зямлі, а па якасьці яе. Аб гэтым мы пісалі і ў «Сялянскую газэту», і ў «Селяніна» і ў «Звезду», усюды аб гэтым многа гаварылася.

Затым, усё-ж такі трэба вынесьці такую пастанову, каб уся гаспадарка ўносіла сваю долю ў бюджэт, бо яшчэ ёсьць такія факты, калі некаторыя, хоць яны і могуць што-небудзь заплаціць бяз страты для сваёй гаспадаркі, але яны ня плоцяць, і па закону нельга вымагаць. Вось, тав. Васілевіч гаварыў, што 20 проц. беднаты вызваляецца ад падаткаў. Гэта—праўда. Але тут ўсё-ж такі ёсьць сярод іх і такія, якія маглі-б хоць колькі-небудзь плаціць, хоць за вяровачку цягнуць дзяржаўны воз, а гэта ня робіцца. Малазямельныя, а таксама з вялікай колькасьцю едакоў поўнасьцю вызваляюцца ад падатку, а ўсё-ж сярод іх хаваюцца і такія, якіх сама-ж Падатковая Камісія пры падліку об'ектаў абкладаньня бачыць, што такія гаспадаркі могуць што-небудзь даць бяз страты для сябе ў дзяржаўны кацёл, а тымчасам яны вызваляюцца зусім.

Возьмем серадняцкую гаспадарку—яна цяпер пераабкладаецца, бо, паводле палажэньня аб сельска-гаспадарчым падатку, яны часта не падыходзяць пад тую ці іншую льготу. Часта відаць, што такая гаспадарка ніяк ня можа заплаціць у такой суме падатку, які на яе наложаны, як па якасьці зямлі, гэтак і па стану.

І вось палучаецца, што калі мы хочам прынаціснуць на нядоімкі, каб ня было запазычанасьці, дык робіцца часта вопіс і продаж маемасьці ў такіх гаспадарак. Але няхай-бы хаця пры гэтым была хоць якая-небудзь карысьць ад гэтага продажу. Тут адбываецца няправільная справа. Напрыклад, робіцца вопісь, маемасьць прадаецца на таргох, а дзеля таго што ў таргох прымаюць удзел толькі заможныя і ўсе свае, дык продаж робіцца няправільна: ацэньваюць, напрыклад, сьвіньню ў 15 руб., а прадаюць за 5 руб.; авечку, якой цана самая меншая 3 р., прадаюць за 75 кап. Гэта-ж зруйнаваньне гаспадаркі, яна ня можа ўжо пасьля гэтага падняцца вышэй і яна год за годам будзе ўсё падаць ніжэй. А такіх гаспадарак, якія лічацца серадняцкімі, але якія ў запраўднасьці зьяўляюцца бядняцкімі, цяпер ёсьць многа, бо цяпер масамі адбываецца земляўпарадкаваньне, і сялянства перасяляецца на новую зямлю горшай якасьці.

Вось гэтыя гаспадаркі, хоць і лічацца серадняцкімі, але заплаціць яны ня могуць. З гэтае прычыны, гэтыя гаспадаркі прыходзіцца на таргох распрадаваць, і выходзіць поўнае зруйнаваньне, а трэба было-б ім дапамагчы крыху, каб яны разьвіваліся і рабіліся больш культурнымі.

Ёсьць і другая частка серадняцкіх гаспадарак, якая ўжо добра ведае дэкрэт, улічвае ўсе акалічнасьці. Такія гаспадаркі ўжо ведаюць, што можна мець добранькі кавалачак зямлі пры сядзібе і падагнаць гэта пад дэкрэт так, каб не плаціць. І вось, такія гаспадаркі, каб падвясьці пад якую-небудзь ільготу, умысна што-небудзь прадаюць, збываюць у сябе пад той час, калі пачынаецца падлік, і такім парадкам яны ўжо не павінны плаціць. І вось, калі пачынаеш прыходзіць за адміністрацыйнымі сысканьнямі, то бачыш, што ў таго няма, у таго прададзена; нашая работа выходзіць толькі папяроваю. У запраўднасьці выходзіць—20 проц. вызваленых па дэкрэту, ды яшчэ 20 проц. набярэцца такіх бедных сялян,—агулам 40 проц., і ў нядоімках палучаецца буйная сума.

Але ўсё-такі як мы ні гаворым і ня пішам, мы павінны зрабіць так, каб кожная гаспадарка бяз лішняга выдатку для сябе была плацельшчыкам. Усё гэта трэба прыняць пад увагу. Мы давяраем нашай Комуністычнай партыі, яна гэта можа прыняць пад увагу. Маецца такі выпадак, калі звальняецца селянін, які мае, дапусьцім, вучастак зямлі, куплены яшчэ ў Сталыпінскі час—15-17 дзес. Ён паказвае нам на об'ект

абкладаньня 5 дзесяцін і 10 душ сям'і і звальняецца. Мае ён 5 дзесяцін лесу, які не належыць да лясоў мясцовага значэньня; ён эксплёатуе гэты лес і ня мае ніякіх абкладаньняў. Ад усіх гэтых недахватаў мы павінны пазбавіцца, каб кінуты Комуністычнаю партыяю лёзунг рэжыму эканоміі быў не на паперы, а на справе, каб ніводная капейка не прападала дарма. Куды ні ткнешся, усюды скаргі. Прыдзі ў раён, там скардзяцца служачыя, што ня ў час выплачваецца пэнсія, і ўсё гэта з-за чаго?—З-за няправільнасьці. Як-жа нам організаваць сваю гаспадарку так, каб ні прасіць нідзе датацый? А ці нельга скараціць дзе-небудзь штаты дзяржаўных апаратаў, як акруговых, так і сельскіх? Я маю жыцьцёвую практыку і ведаю, як было ў царскія часы. Раней было адно валасное праўленьне на 30 вёсак, а цяпер на кожныя чатыры вёскі адзін сельсавет, дзе, разумеецца, пэўны штат супрацоўнікаў, якім плацяць па 25 і болей рублёў. Мы прымаем актыўны ўдзел у працы, якую праводзіць Комуністычная партыя, і думаем, а ці нельга гэтага папрavіць. У кожнай вёсцы маецца член сельсавету, узяць-бы і даць яму не па 28 рублёў, а па 10 рублёў, каб ён быў зборшчыкам. Сельсавет працуе толькі два дні на тыдзень, так што працы там ня многа і гэтых дзесяці рублёў хапіла-б у поўнай меры. Усе гэтыя выдаткі трэба перагледзець, каб наш бюджэт быў менш дэфіцытным.

Далей аб працаўніках ніжэйшых органаў. Усюды мы бачым адлічэньні на беспрацоўе, а калі беспрацоўных пасылаюць на тую ці іншую працу, яны ня хочуць ісьці.

Часта ў нас у раёнах комунальныя будынкі не на месцы, яны стаяць на канцы, на значнай адлегласьці ад насельнага пункту. Сяляне ў час кампаніі сельска-гаспадарчага падатку прыяжджаюць туды масамі і стаяць у чарзе, чакаючы супрацоўніка да 10-11 гадз., а яго няма, толькі пазьней прыходзіць і прыступае да працы. У 3 гадзіны пачынае глядзець на гадзіньнік і ў чатыры гадзіны выходзіць, а сяляне застаюцца ні з чым і ня ведаюць, што рабіць. Няма ніякае павеці, завіруха—і няма куды дзецца, яны і ня ведаюць, ці ехаць ім назад, ці застацца назаўтра. А ці нельга-б зрабіць так, каб лішнюю гадзінку папрацаваць і каб аддаць сялянам больш увагі, каб такіх выпадкаў ня было. А то варочаецца селянін дамоў. У хаце што-небудзь здарыцца, яго затрымліваюць і ён часам можа прыехаць толькі праз два тыдні, а за гэты час нарастае пеня. Трэба да гэтага ўважліва прыглядзецца і зьніштожыць недахваты.

Тав. Г э й н а: Пры складаньні і праходжаньні бюджэту ў гэтым годзе, я лічу, мы маем вялікія дасягненьні. Мы ня маем, прынамсі, у гэтым годзе тых мытарстваў, якія меліся ў леташнім годзе, што бюджэт складаўся некалькі разоў, перакладаўся, дакачываўся да Наркамфіну і зварачваўся назад у акругу і ў раён, а потым зноў у Наркамфін. У гэтым годзе такога становішча мы ня мелі. Наш падыход быў больш правільным, і трэба лічыць, што складаньне і праходжаньне бюджэту ў гэтым годзе праходзіла больш-менш нормальна. Але тут, я лічу, мы маемяшчэ адзін вялікі хіб: спачатку мы складалі бюджэт і пасьля бюджэту вытворчыя програмы. Гэта адзін з найбуйнейшых хібаў, які прыдзецца ў будучым годзе бязумоўна справіць, бо само сабою зразумела, што калі мы складаем бюджэт, а пасьля яго—вытворчыя програмы, то прыходзіцца ўжо ўвязваць нашыя вытворчыя програмы з бюджэтам, у той час, калі павінна быць якраз наадварот: спачатку складаньне вытворчых програм, а потым—бюджэту, бо іначай мы спатыкаемся з фактам цяжкасьці ўвязкі вытворчых програм з бюджэтам, калі бюджэт ужо складзены і прайшоў праз усе інстанцыі; ясна, што ў яго ўносіць даты якія-небудзь спраўленьні немагчыма. З гэтае пры-

чыны прыходзілася ў некаторыя вытворчыя програмы ўносіць такія спраўленьні, якія ў выніку шкодна будуць адбівацца на вытворчасьці.

Далей, я лічу адным з буйнейшых дасягненьняў тое, што прырост нашага бюджэту ў большай частцы накіраваны па вытворчых каналах, г. ёсьць: на дарожнае будаўніцтва, на сельскую гаспадарку, на культурныя абслугоўваньні, на мэддапамогу і г. д.

З агульнае сумы ўсяго прыросту прыблізна 50 проц. ідзе па вытворчых каналах. Я лічу гэта вялікім дасягненьнем. У леташнім годзе па сельскай гаспадарцы мы мелі недахоп сродкаў на агрономічную работу і з гэтае прычыны ў нас была няўвязка, г. ёсьць мы не маглі ўвязаць нашы зямляўпарадкаваныя работы з агрономічнымі мерапрыемствамі; адсюль быў той прарыў, які вельмі і вельмі адбіўся на агульным разьвіцьці сельскае гаспадаркі.

Што належыць да дарожнага будаўніцтва, то калі ў далейшым будуць апускаецца сродкі ў такой самай пропорцыі, як цяпер, то мы ў самым хуткім часе давядзем аднаўленьне дарог і мастоў да даваеннага ўзроўню.

Далей, яшчэ адзін з важных момантаў, які мы маем у гэтым годзе і якога да гэтага часу ня мелі,—гэта вылучэньне прамысловага фонду ў акругах. Мы да гэтага часу па аднаўленьню мясцовай прамысловасьці амаль нічога не маглі зрабіць і нічога не рабілі, бо для гэтага ня было ніякіх сродкаў. Усе сродкі з мясцовай прамысловасьці забіраліся ў мясцовы бюджэт і не давалася ніякіх сродкаў на аднаўленьне гэтай мясцовай прамысловасьці. Апрача таго, прадпрыемствы часьцяком здаваліся ў арэнду і арандатары таксама ня ўкладвалі ў гэтыя прадпрыемствы сваіх сродкаў для іх аднаўленьня, а наадварот, імкнуліся выкачываць з гэтых прадпрыемстваў усё, што маглі і зварочвалі іх разбуранымі. Прайшоўшы першы квартал паказаў, што вылучэньне прамысловага фонду дасьць бязумоўна вялікія вынікі ў справе аднаўленьня нашай мясцовай прамысловасьці.

Далей, я лічу, што той вопыт, які быў зроблен у дзьвюх акругах— Менскай і Віцебскай—у гэтым годзе, у частцы нормаваньня зарплаты па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту, даў здавальняючыя вынікі і што яго трэба ўжыць у іншых акругах. Мы, бачым, што цяпер няма тых нараканьняў, якія былі дагэтуль па поваду таго, што работнікі, працуючыя ў дзьвюх аднародных установах, атрымоўваюць не аднолькавую стаўку. Работнікі дзяржбюджэту атрымлівалі адну стаўку, а работнікі па мясцоваму бюджэту атрымлівалі другую стаўку. Гэтага зьявішча ў нас больш няма, і я лічу гэта вялікім дасягненьнем. Адначасова з усімі дасягненьнямі, якія мы маем у частцы складаньня мясцовага бюджэту, трэба адзначыць і недахопы. Ня ведаю як у іншых акругах, але ў нас, у Віцебскай акрузе, бюджэт складзены з вялікім напружаньнем, папершае, як і ўжо зазначаў, часткова гэта вынікае з таго, што мы складалі бюджэт раней, чымся мы складалі вытворчыя програмы; апрача таго, з тае прычыны, што мы ўздувалі некаторыя даходныя артыкулы. Возьмем, напрыклад, надбаўкі да прамысловага збору па Віцебскай акрузе. Мы вылічалі яго ў лічбе 716.820 р. і адлічэньні—364.928 р., прымаючы пад увагу 10-проц. рост тавараз вароту. У выніку гэтая лічба была павялічана на 130.000 р. Цяпер мы пераканаліся, што таваразварот па прыватнаму гандлю павялічыўся ўсяго на 1,59 проц. Зразумела, адгэтуль вынікае, што мы будзем мець па гэтаму артыкулу вялікі недабор. Што-ж датычыцца лясных даходаў, то па гэтаму артыкулу мы таксама будзем мець недабор; у сувязі з устанаўленьнем высокай наддачы многія загатаўцелі адмаўляюцца ад загатовак.

Далей возьмем прамысловасьць. Прадпрыемствы ВСНГ, якія ўвайшлі ў мясцовы бюджэт са сваім прыбыткам, як-то: махорачная фабрыка, панчошная фабрыка і «Профінтэрн», прыбытак якіх быў вылічаны не па балянсу, а паводле папярэдніх даных. Гэтыя лічбы, зразумела, не маглі быць дакладнымі, і цяпер, калі мы ўжо маем балянсавыя лічбы, мы бачым, што такія рэзка зьмяніліся ў бок паніжэньня. Ясна, што і тут будзе недабор.

Такое-ж самае становішча мы маем і ў нашай комунальнай прамысловасьці.

Адначасова мы маем цэлы шэраг непрадбачаных выдаткаў, як, напрыклад, павялічэньне пэнсіі інвалідам (закон, які вышаў пасьля складаньня бюджэту). Мы па гэтай частцы маем 13.000 розьніцы ў стасунку старых і новых ставак. Зразумела, гэтыя 13.000 р. прыдзецца таксама пакрыць з нейкіх крыніц, бо ў бюджэт увайшлі яшчэ старыя стаўкі.

Зразумела, што яшчэ больш ускладніцца становішча, калі мы не атрымаем тае субвэнцыі, якую запрапанавана нам даць па мясцоваму бюджэту. Мы павінны атрымаць субвэнцыю ў разьмеры 329.000 р. на будаўніцтва школ, прамысловы фонд, на дарожнае будаўніцтва, вайсковыя патрэбы і г. д. Калі мы ўсю гэтую суму атрымаем, то, зразумела, з вялікаю нацяжкаю мы магчыма як-небудзь вылезем з склаўшагася становішча. Але, калі гэтая субвэнцыя будзе ўрэзана, то будзе вельмі цяжка выбрацца з таго становішча, у якім мы знаходзімся.

Я кажу, што бюджэт вельмі напружаны, і пры малейшай урэзцы ў нас складзецца вельмі цяжкое становішча.

Старшыня: Слова мае Тамашэўскі.

Тав. Тамашэўскі: Таварышы, я—малады беларус, я толькі ўчора прыехаў з РСФСР, а дзеля гэтага не пасьпеў азнаёміцца з беларускім бюджэтам, але ўсё-такі я буду прыдзірацца да некаторых лічбаў. Калі мы паглядзім прыбыткі ад сельскай гаспадаркі—51 проц., паглядзім прыбыткі па прамысловасьці, па прыбытковым падатку, рэнце і акцызе—49 проц., дык мне здавалася-б, што тут ёсьць маленькая няправільнасьць. Мы-ж з 1917 г. за кошт сельскай гаспадаркі адраджалі прамысловасьць (праўда, учора дакладчык гаварыў, што ні ў якім выпадку мы ня будзем аднаўляць прамысловасьці за кошт сельскае гаспадаркі). Я тут адзначаю наступнае: калі мы бяром 49 проц. ад прамысловасьці і ад усіх прыбыткаў, як-та: акцыз, рэнта і падаходны падатак, дык трэба сказаць, адкуль-жа бяруцца гэтыя 49 проц.? Вядома,—ад спажыўца. Хто зьяўляюцца спажыўцамі? Часткова—гарадзкое насельніцтва, часткова—рабочыя, але па колькасьці насельніцтва большая частка прыпадае на вёску. Дык што гэта не вясковы падатак? Тады мы будзем лічыць не 50 проц., а мусіць будзем лічыць, што з сялянскае гаспадаркі бярэцца 70 або нават і 80 проц. падатку. Я так разумею. Можа гэта і няправільна, можа я атрымаю супраціўнае ў заключным слове дакладчыка.

Далей, дакладчык казаў, што павялічана цана на лес. А гэта што, хіба не падатак на нашага серадняка ў вёсцы?—Вядома, падатак. Калі на лес павялічваецца цана, і селянін павінен купіць лес, значыцца, гэта павялічэньне кладзецца і на нашага серадняка, ня лічачыся з тым, што бяднейшае сялянства атрымоўвае льготы ад ляснога фонду.

Далей, дакладчык спыняўся таксама на павялічэньні цэн на зямляўпарадкаваньне. Я лічу, што гэтага не павінна было быць. Сяляне кажуць, што лепш павялічыць на адзін процант або на два падатак на сельскую гаспадарку, але не павышаць цаны на зямляўпарадкаваньне, для таго, каб ня было блытаніны ў зямляўпарадкаваньні, а яго правесьці за кошт дзяржавы цалком. Мы думалі, што гэта было-б лепш, было-б менш працы нізавым савецкім апаратам і было-б лепш нашым камор-

нікам і ўсім іншым працаўнікам, а то ў нас шмат непаразуменьняў, а сяляне на гэтай глебе вядуць між сабою спрэчкі: той плаціць, таго дзяржава звольніла, з таго больш бяруць і г. д.

Папярэдні таварыш селянін Козыраў гаварыў, што падатак у іх туга здаецца. Ня ведаю, я гэтага не наглядаў. Бо для таго, каб здаць падатак, ня трэба абавязкова стаяць у вялікай чарзе, а можна здаваць падатак (у нас так і рабілася) у сельсавет, а ў старшыні сельсавету ня шмат займе часу для таго, каб унесьці падатак у раён, або ў волвыканком.

Пры гэтым таварыш адзначаў, што працаўнікі сельсаветаў атрымоўваюць вялікую аплату. Я гэтага ня ведаю, наадварот, я 4 гады працаваў у сельсавеце і нічога не атрымліваў і толькі ў апошні час пачаў атрымоўваць па цяперашняй стаўцы. Але ўсё-ж я лічу, мяркуючы па той працы, якая зараз праводзіцца ў сельсавеце, можна сказаць, што аплачваецца, калі ня мала, дык і ня многа.

Далей, я буду гаварыць аб выдатках. Дакладчык гаварыў, што на прамысловасьць у апошні год было адпушчана 6.900.000 руб., а на сельскую гаспадарку 12.600.000. Давайце з вамі падрахуем колькасьць насельніцтва, рабочых, якія стаяць у прамысловасьці і колькасьць сялян, якія жывуць у вёсцы і падлічым, які процант падае ў вёсцы на кожнага селяніна і які процант падае ад 6.000.000 руб. на кожнага рабочага. Наша мэта, узмацняючы прамысловасьць, своечасова падрыхтоўваць і спажыўца для нашае прамысловасьці. Я павінен сказаць, што ў вёсцы ў нас ня ўсё добра, што трэба падыходзіць да вёскі больш асьцярожна ў адносінах падатку. Мы ведаем, што ў нас серадняк ідзе ў аглоблях з 17 году ня выпрагаючыся. У гэтым годзе, як казаў дакладчык, мы ўзялі толькі леташні процант, затое вялікі процант звольнілі беднякоў ад падатку. Я згодзен з гэтым, але трэба паказаць нашаму серадняку на 10-м годзе існаваньня савецкае ўлады, каб ён пачуў, што падатак ідзе на зьмяншэньне, што дзяржава мацнее.

Мая пропозыцыя заключаецца ў тым, што для таго, каб пазбавіцца і ліквідаваць нараканьні сялянства на цяжкасьць падаткаў, трэба ўтварыць сельскі бюджэт. Толькі тады сялянства вывучыць налагавую політыку і толькі тады яно будзе ведаць, куды ідуць яго грошы, і без нараканьняў, з ахвотаю будзе выплачваць падаткі ў тэрмін.

Далей, мы маем вялікія нараканьні ў гэтым годзе на падсобныя заработкі. Гэтае пытаньне было самым балючым. Я лічу, што для таго, каб пазбавіцца ад гэтых нараканьняў, трэба, каб селянін, які зарабляе ад саматужніцтва, выбіраў-бы патэнт, а той селянін, які працуе ў лесе, адлічваў пэўны процант праз тыя організацыі, дзе ён атрымлівае грошы.

Памойму, трэба таксама прыняць пад увагу прыбыткі ад рэнты. Дакладчык датыркнуўся гэтага пытаньня і сказаў, што гэтага правільнага вучоту ў нас яшчэ няма, між тым пара ўжо было-б прыступіць да гэтага, каб у наступным годзе пад час дакладу Наркамфіна аб бюджэце мы гэтага недахвату ня чулі.

Павялічыць трэба падатак ад прамысловасьці, асабліва ад тае, якая вырабляе прадметы раскошы і сьпіртныя напіткі. Гэтым шляхам мы можам зьменшыць сельска-гаспадарчы падатак, гэтым шляхам мы дамо перадышку серадняку, а павялічэньне падатку на прадметы раскошы і на сьпіртныя напіткі ляжа на таго абывателя, які мае больш сродкаў, і, значыцца, гэтае абкладаньне будзе больш справядлівым.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Браўковіч.

Тав. Б р а ў к о в і ч: Не хачу, таварышы, спыняцца на пытаньні аб тэй лініі, якую ўзяў Саўнарком пры разглядзе бюджэту ў гэтым годзе, бо я лічу, што пры тых умовах, у якіх мы працуем у сучасны момант, і пры тых задачах, якія мы ставім перад сабой, як у галіне гас-

падарчай, гэтак і ў галіне культурнага будаўніцтва, лінія ўзятая Саўнаркомам і праведзеная ім пры складаньні бюджэту зьяўляецца правільнай.

Але ў той-жа час я не хачу сказаць так, як гавораць некаторыя таварышы, што наш бюджэт у гэтым годзе складзены ідэальна ў сэнсе правільнага падліку ўсіх гаспадарчых магчымасьцяй усіх культурных патрэб, якія ў нас ёсьць. Лінія праведзеная ў бюджэце, якая абрахоўвае нашы ўмовы, узята правільна, але гаварыць аб абсолютнай ідэальнасьці, памойму, яшчэ рана.

Потым я лічу, што некаторыя таварышы перагінаюць палку ў другі бок, калі кажуць, што пры стварэньні бюджэту ня былі прадбачаны патрэбы нашай савецкай гаспадаркі. Гэтак гаворыць, напрыклад, таварыш, што назваў сябе «новым беларусам». Ён атрымаў новы бюджэт, праглядзеў яго зьверху, не разабраўся дакладна ў лічбах і выступіў тут з крытыкай. Трэба, таварышы, раней прачытаць, паглядзець уважліва і потым ужо толькі заяўляць, правільна ці няправільна разьмяркоўваецца наш бюджэт і нашы прыбыткі ў паасобных галінах гаспадаркі. Трэба-ж мець на ўвазе хоць-бы такія элемэнтарныя правілы, што калі гаворыцца аб тым, што на прамысловасьць дадзена 6.000.000, а на сельскую гаспадарку—13.000.000, дык ужо пры параўнаньні гэтых 2-х лічбаў ня прыходзіцца гаварыць, што мы скрыўдзілі сельскую гаспадарку. Заяўляць так—гэта значыць, што далей ісьці няма куды. Трэба-ж мець на ўвазе, што прамысловасьць таксама абслугоўвае нашую сельскую гаспадарку і, укладаючы сродкі ў прамысловасьць, гэтым самым мы ўздымаем і сельскую гаспадарку. І нельга-ж тут лічыць так, як папярэдні таварыш лічыў, які даводзіў, колькі прыпадае на душу аднаго рабочага і колькі на душу аднаго селяніна нашых прыбыткаў. Гэта зусім няправільны падыход. Я хачу спыніцца на некаторых практычных момантах, якія і ў далейшым, памойму, намі павінны прымацца пад увагу. І першае, аб чым я хачу сказаць,—гэта старое пытаньне, адносна тэрмінаў бюджэтнага году. Мне здаецца, што калі мы ў далейшым будзем на тым-жа пункце гледжаньня, што бюджэтны год у нас павінен быць з 1-га кастрычніка па 1-га кастрычніка, дык мы, як і раней, будзем рабіць вялікія гаспадарчыя памылкі, якія мы да гэтага часу рабілі. І ў гэтым годзе ў нас таксама няма ўпэўненасьці, што тая прыбытковая часьць, якую мы вылічылі, будзе цалкам выпаўнена. Таварышы з Віцебску кажуць, што лясныя прыбыткі ў гэтым годзе, дзякуючы цэламу шэрагу момантаў, ня будуць выпаўнены. Я прытрымліваюся іншага погляду і думаю, што ў гэтым годзе, як і ў мінулым годзе, мы па лясных прыбытках будзем мець перавышэньне ў прыбытковых паступленьнях па бюджэце. У мінулым годзе, калі мы складалі наш бюджэт, мы ў стасунку да лясных прыбыткаў мелі вельмі дрэнныя надзеі. Мы лічылі, што тыя сродкі, якія мы ўнесьлі ў прыбытковую часьць бюджэту, маючы на ўвазе прыбыткі ад лясоў, намі ня будуць атрыманы поўнасьцю, таму што ўмовы для лесазагатовак былі вельмі дрэнныя: у студзені месяцы на дварэ яшчэ стаяла гразь і ня было саннае дарогі. Тым ня меней, мы толькі на працягу аднаго месяца пасьпелі вывезьці той лес, які мы прызначылі на продаж і продалі поўнасьцю нашу гадавую лесасеку. У гэтым-жа годзе ўмовы для лесазагатовак значна больш спрыяльныя; мы ўжо маем зусім сталую санную дарогу і таму мы можам разьлічаць, што не пакінем ніводнае палкі ў лесе з тае гадовае лесасекі, якую мы продалі.

Вось вам ужо першы момант, які не дае магчымасьці правільна зладжыць бюджэт і вызначаць правільныя дапушчэньні па лясных прыбытках.



Другі момант—гэта наша сельская гаспадарка. Мы першыя вынікі за год, які праходзіць, звычайна можам падводзіць толькі к 1-му кастрычніка ў адносінах да сельскай гаспадаркі,—іменна тады, калі мы ўжо робім спробны абмалот і калі ўжо мы блізка што ведаем, што нам дасьць савецкая гаспадарка. А тымчасам, нам прыходзіцца складаць наш бюджэт яшчэ на 1-га мая, г. зн. тады, калі толькі пачынаецца пасеў. Зразумела, што ад умоў лета і ад іншых момантаў прыбытковасьць сельскай гаспадаркі дужа хістаецца, а к 1-му кастрычніка мы можам мець зусім іншыя вынікі, чым мы прызначалі на 1-га мая.

Тое-ж самае ў галіне нашай прамысловасьці; калі мы ня ведаем, як наша прамысловасьць будзе забясьпечана сыравінай і г. д., мы ня можам складаць дакладных плянаў па прамысловасьці і дакладна падлічыць яе прыбыткі.

У выніку ўсяго гэтага, у выніку таго, што мы не аблічваем усіх гэтых асноўных момантаў і ня можам іх падлічыць, мы маем тыя прылікі, ад якіх мы ня можам і далей быць застрахаваны пры такім становішчы. Дзеля гэтага я лічу, што нам трэба будзе паставіць пытаньне аб тым, каб гаспадарчы год з 1-га кастрычніка перанесьці на 1-га студзеня.

Другое пытаньне, якое я хачу тут паставіць—гэта пытаньне адносна дэфіцытнасьці нашых акруговых бюджэтаў. Як выйсьці з гэтага дэфіцыту? Мы маем наступныя разьлікі па гэтым дэфіцыце: мы бачым, што такія акругі, якія ня маюць такіх прыбыткаў, як лес, бо гэтыя акругі кожны год павялічаюць свой дэфіцыт, ня глядзячы на тое, што адносная вага гэтага дэфіцыту памяншаецца. Возьмем такі прыклад: Полацкая акруга ў мінулым бюджэтным годзе мела дэфіцыту 505 тыс. руб., у гэтым годзе мае 1.000.003 рублі. Аршанская акруга мела ў мінулым бюджэтным годзе 327.000 руб., у гэтым годзе мае 748.000 руб. Магілеўская мела ў мінулым бюджэтным годзе 471.000 р., у гэтым—1.044.000 р. Такім чынам, мы зазначаем, што дэфіцытнасьць расьце, агульныя лічбы дэфіцыту ўзрастаюць, і перад намі стаіць пытаньне аб тым, каб дэфіцыт зьменшыць. Гэтае пытаньне мы павінны паставіць перад сабой, і Сэсія ЦВК павінна даць дырэктыву ў гэтым напрамку.

З адным пытаньнем, якое тутака выстаўлялі, я цалкам згодзен. Гэта з поваду скарачэньне нашых адміністрацыйных апаратаў. Мы павінны на гэтую дэталь націснуць усёй нашай сілай, хоць гэта ня дасьць усяго таго, што нам патрэбна. Калі мы зазначаем, што ў нас маецца скарачэньне адміністрацыйных выдаткаў, дык гэта маецца ў тых акругах, якія зьяўляюцца дэфіцытнымі. Кошт апарату дэфіцытных акруг значна меншы бездэфіцытных. Возьмем Полацкую акругу: на ўтрыманьне сельсавету ідзе 808 рублёў, а на ўтрыманьне сельсавету ў Бабруйскай акрузе—1.021 рубель, хаця яна бездэфіцытная. Мы можам скараціць, націснуць на Бабруйскую акругу, але яна бездэфіцытная. Тое самае і з раёнамі: мы маем па Полацкай акрузе каштоўнасьць апарату раёну ў год 12.511 руб., а па Бабруйскай—16.664 руб., так што на скарачэньне апарату і адміністрацыйных выдаткаў мы павінны націснуць, але гэта ня дасьць таго эфэкту, які нам патрэбен. Паставіць пытаньне, як ставілі яго некаторыя таварышы, каб зьмяніць тэмп росту на культурныя выдаткі—на шпіталі, школы і г. д.—мы ня можам, бо ў гэтым годзе мы складалі свой бюджэт па тых плянах, якія маюцца: дзесяцігодні плян ліквідацыі няпісьменнасьці і пяцігодні—пабудовы шпіталёў. Тут трэба: або парушыць пляны, якія пабудаваны, а ў гэтых плянах прымаліся пад увагу ўсе тыя патрэбы, якія маюцца, або мы павінны зрабіць што-небудзь іншае. На мой пагляд, мы павінны будзем паставіць пытаньне, у першую чаргу, аб падняцьці прыбытковасьці тых дэфіцытных акруг,

якія дагэтуль яшчэ дэфіцытныя. І першае, што перад намі стаіць, гэта— разьвіцьцё прамысловасьці ў гэтых акругах, на што мы дагэтуль мала зьвярталі ўвагі. Калі возьмем лічбы разьвіцьця прамысловасьці вызначаныя ў разьмеркаваньні прамысловага фонду па паасобных акругах, дык мы ўбачым: Полацкая акруга атрымлівае 69.185 рублёў, Менская— 381.000, Віцебская—259.000, Бабруйская—200.000 і г. д. Ясна, што гэтыя дэфіцытныя акругі ў гэтым годзе ня ў стане будуць зьвярнуць большую ўвагу на пашырэньне прыбытковасьці, бо мы ня маем па бюджэту сродкаў, каб пашырыць разьвіцьцё прамысловасьці гэтых акруг, і такім чынам падняць прыбытковасьць бюджэту.

Тое самае заўважаем і па сельскай гаспадарцы. Возьмем, напрыклад, Полацкую акругу. Па гэтай акрузе было адпушчана 21.000 рублёў на мэліорацыйныя работы, тымчасам, як яна мае 22 проц. агульнай колькасьці зямлі—забалочанай. Тав. Прышчэпаў мне абяцаў, што ў гэтым годзе адпусьціць больш значныя сумы на мэліорацыйныя работы ў Полацкай акрузе. Такім чынам, мы заўважаем, што пытаньні прамысловасьці, пытаньні сельскай гаспадаркі тых акруг, якія дагэтуль зьяўляліся дэфіцытнымі, ня высоўваліся ў такой ступені, як гэта неабходна, і мы павінны цяпер гэтую справу паправіць.

Тое самае мы маем з комунальнай гаспадаркай. Тутака мы адзначаем наступнае. Бабруйская акруга, напрыклад, атрымала на комунальную гаспадарку ў гэтым годзе на 29 проц. болей, чымся ў бягучым, Магілеўская—на 80 проц. больш, Аршанская—на 39 проц., Полацкая— толькі на 8,5 проц., тымчасам як Полацкая акруга, дзякуючы пану Пілсудзкаму, утворана на трэсках. Тая прамысловасьць, што была да грамадзянскай вайны, зусім зьнішчана, і мы павінны будзем тутака ў гэтым кірунку зьвярнуць увагу на разьвіцьцё гэтых галін гаспадаркі. Мне таварышы скажуць: добра, але бюджэт складзен і ўжо нічога нельга зрабіць. Аднак, мы маем яшчэ крэдыты і пры разьмеркаваньні іх павінны будзем згладзіць тыя шурпатасьці, якія заўважым.

Такім чынам, з момантам падняцьця гаспадаркі, мы даем магчымасьць зьвесьці каштарыс тых акруг, якія ў сучасны момант зьяўляліся дэфіцытнымі, бездэфіцытна. З другога боку, на мой погляд, нельга ставіць пытаньне аб тым, каб утрымаць у далейшым тэмп культурнага разьвіцьця, а трэба паставіць пытаньне аб пераглядзе сыстэмы, бо ў нас дагэтуль па некаторых галінах ідуць па шаблёну. У 20 годзе мы казалі, што трэба даць сродкі на перападрыхтоўку школьных працаўнікоў, і ў 27 годзе гэта таксама трэба рабіць, паколькі гэта неабходна. Але мне думаецца, што ў сучасны момант гэта ўжо ня так трэба, як гэта было раней, тымчасам на гэта адпускаюцца значныя сумы.

Далей—будаўніцтва больніц. Мы выдаем сродкі, будуем больніцы ў кожным раёне. Што даюць гэтыя больніцы? На мой погляд, мы не дасягаем тых мэт, якія ставім перад сабой. Я лічу, што трэба паставіць пытаньне аб пабудове міжраённых больніц і лекавых пунктаў, што будзе каштаваць больш танна і будзе лепей.

У галіне народнае асьветы мы маем пэўныя сьпісы і кожны год выдаем па гэтых сьпісах грошы, не зварочваючы ўвагі на тое, якія мы маем вынікі ад гэтых выданых сродкаў. Я лічу, што нам трэба зьвярнуць увагу на сыстэму разьмеркаваньня сродкаў.

Яшчэ адну мінутку. Я хачу спыніцца на тых лічбах, якія даў нам тав. Васілевіч. Тав. Васілевіч бярэ сухія лічбы і гаворыць: «Глядзеце, колькі мы вам даем». Аднак, т. Васілевіч сказаў, што ён ня ручаецца за гэтыя лічбы. Ды за іх і нельга ручацца; гэта—вельмі спрэчныя лічбы, і мы будзем спрачацца. Нельга браць колькасьць грошай, якія выдаюцца па акругах на кожную душу. Тав. Васілевіч казаў, што ў Бабруйску мы

выдаем 8,35, у Менску—12,6, у Полацку—8,76, у Магілеве—6,13 руб. і г. д. Але, таварышы, на падставе гэтых лічбаў нельга гаварыць аб тым, што адна акруга задаволена больш другой (голас з месца: Чаму нельга?). З тэй прычыны, што нельга падыходзіць з сухімі лічбамі, а трэба паглядзець, у якім становішчы знаходзіцца тая ці іншая акруга. Адна акруга атрымоўвае больш грошай, другая—менш, але і становішча гэтых акруг таксама неаднолькавае, і з гэтай прычыны нельга сьцьвярджаць, што тая акруга, якой выдзяляюць больш сродкаў на школы, больніцы і ўстановы, знаходзіцца ў лепшым становішчы, чым тая, на якую выдзяляюць менш сродкаў. Возьмем такі прыклад. У ваднэй акрузе больніца добра абсталявана, і сродкі, што адпускаюцца, ідуць толькі на мэдыкамэнты. У другім раёне на тыя-ж самыя сродкі трэба купіць ня толькі мэдыкамэнты, але і лыжкі, пасудак і адзежыну, а іншы раз і само памяшканьне пабудаваць. Ясна, што тут у становішчы больніц ніякага параўнаньня зрабіць нельга.

Полацкая акруга атрымоўвае на душу насяленьня 8,76 рубля, а калі вы паглядзіце, колькі выдаецца ў Полацку на новае будаўніцтва, а яно ўваходзіць сюды, бо мы ня вінны, што ў нас 48 проц. школ знаходзіцца ў дзяржаўных будынках, а 52 проц. знаходзіцца ў прыватных памяшканьнях. І ў гэтым ня наша віна і нам прыходзіцца выдаваць значную суму на будаўніцтва школ. Становішча школ ад таго, што мы будуем новыя школы не палепшыцца. Становішча школ можа палепшыцца ў наступным годзе, калі будынкі будуць пабудованы і школы будуць знаходзіцца ў прасторных і сьветлых памяшканьнях, заместа тых хатак, у якіх яны знаходзяцца цяпер. Вось чаму нельга гаварыць «Вам многа адпушчаюць на народную асьвету», таму што грошы ідуць на будаўніцтва памяшканьняў.

Хачу яшчэ спыніцца на разьмеркаваньні сродкаў па дзяржаўным бюджэце. Таварыш Васілевіч сказаў, што многія дырэктывы намі ня выконваюцца. Я павінен сказаць, што адна дырэктыва Саўнаркому зусім ня выконваецца. Гэта—дырэктывы аб разьмяшчэньні сродкаў дзяржбюджэту на мэліорацыйныя работы і ўтрыманьне агрономаў. У гэтым стасунку мы яшчэ нічога не зрабілі, а надыходзіць вясна, трэба складаць пляны веснавой пасеўнай кампаніі. Мы-ж нічога ня робім таму, што ня ведаем, якія сродкі нам будуць адпушчаны. Я лічу, што да зацьвярджэньня бюджэту ў Саюзным Саўнаркоме наш Беларускі Саўнарком павінен быў прыслаць нам хоць-бы орыентовачныя даныя аб тым, колькі нам будзе выдзелена грошай, каб мы маглі ўжо цяпер узяцца за працу.

Тав. Турлаеў: Зразумела, наш бюджэт у гэтым годзе, як гаварыў ужо тут адзін таварыш,—далёка не ідэальны. Яшчэ многа давядзецца папрацаваць, пакуль наш бюджэт зробіцца бюджэтам ідэальным. Усё-ж, калі параўнаць тое разьмеркаваньне і накіраваньне сродкаў, якія мы маем у гэтым годзе, а таксама праработку лічбаў і матар'ялаў, дык, зразумела, параўнаўча з мінулым годам, мы маем вялікія дасягненьні. Мне здаецца, што з усяго гэтага мы павінны зрабіць адзін вывад, які ставіць перад намі сур'ёзныя задачы. Калі мы параўнаем узрост нашага бюджэту хоць-бы за апошнія тры гады, дык процант узросту ў гэтым годзе паказвае, што мы ўвайшлі ў такую паласу, калі гэты ўзрост робіцца павальнейшым. Але пры гэтым трэба зазначыць, што нашы патрэбы ня толькі ня робяцца больш павольнымі, а наадварот—усё павялічваюцца і павялічваюцца. Гэта зусім натуральна. Наша насельніцтва становіцца ўсё больш культурным, а з узростам культурнасьці растуць і патрэбы. Адсюль вынікае, што нам трэба будзе ў гэткі бок выдзяляць усё больш і больш сродкаў. Адкуль гэтыя сродкі браць? Мне здаецца, што трэба іх шукаць унутры нашай краіны. Трэба зьменшыць нявытвор-

чыя выдаткі, накіроўваючы сродкі ў бок вытворчых—культурна-соцыяльных. З гэтай прычыны, перад намі стаіць задача спрашчэньня нашых апаратаў, перагляду мэтодаў работы і рацыяналізацыі іх. Калі ўзяць гэтую вялікую кніжку «мясцовы бюджэт», дык там на 36 старонцы ёсьць характэрныя лічбы прыбыткаў на адну душу насельніцтва па акругах, а таксама выдаткаў. Возьмем самыя характэрныя акругі: Калінінская акруга—прыбыткі 2 р. 60 кап., а выдаткі 6 р. 49 к., Магілеўская акруга прыбыткі—3 р. 85 к., выдаткі—6 р. 13 к., Менская акруга,—тут самыя вялікія лічбы: прыбыткі—9 р. 69 к., а выдаткі—12 р. 60 к. Якія вывады трэба зрабіць з гэтых лічбаў? Вывады такія, што ў асобных акругах параўнаўча з невялікімі прыбыткамі нам прыходзіцца траціць даволі значныя сумы ў выдатковую частку. На 37 стар. гэтай-жа кнігі мы маем разьмеркаваньне выдаткаў па групах. Я спынюся на аднэй групе выдаткаў, а іменна—адміністрацыйныя выдаткі. Калі мы возьмем лічбы па акругах, дык мы ўбачым характэрны малюнак: Калінінская акруга—29,9 проц., Мазырская—21,8 проц. (гэта самыя вялікія лічбы), у рэшце акруг маем наступныя лічбы: 15, 17, 19 і самыя меншыя лічбы гэта па Менскай акрузе—13,2 проц. З гэтых лічбаў я раблю такі вывад што, чым меншая акруга, тым больш падае на яе адміністрацыйных выдаткаў, на ўтрыманьне апарату, а таму трэба зараз ужо будзе паставіць задачу спрашчэньня нашае работы шляхам скарачэньня некаторых акруг. Тады мы здолеем за кошт адміністрацыйных выдаткаў мець сродкі, якія трэба будзе накіраваць на культурна-соцыяльныя і вытворчыя патрэбы. Гэтая задача павінна ў нас зараз пасьля нашае Сэсіі вырашацца, каб да новага бюджэтнага году мы патрапілі ўсё перарабіць і ў наступным бюджэтным годзе атрымаць вынік.

Наступнае пытаньне, на якім я хачу спыніцца, гэта—зарплата. Тав. Васілевіч гаварыў у сваім дакладзе, што паводле дзяржбюджэту на рэформу па дзяржнормаваньні мы выдалі каля 500.000 руб. Я хачу зазначыць, што бязумоўна гэтая рэформа дала вельмі многа. Праўда, многа чаго яшчэ ня зусім добра, яшчэ трэба многа папрацаваць, каб гэтую справу давесьці да поўнага ўдасканаленьня. Але тут пытаньне другое; справа ў тым, што лічба намі бярэцца пад сумненьне ў тых адносінах, што зараз ужо другая палова студзеня месяца, а зарплата, якая вылічаецца па дзяржнормаваньню, дагэтуль ня выплачваецца. Дагэтуль зарплата выплачваецца па ранейшых стаўках. У самых работнікаў установаў, а таксама і ў профэсыянальных організацый ёсьць сумненьне, што зарплата хоць па новых стаўках, у якіх яна аблічана па дзяржнормаваньні, ня будзе выплачана з таго тэрміну, з якога яна павінна быць выплачана, а іменна: з 1-га кастрычніка, гэта значыць з новага гаспадарчага году. Трэба будзе, чаго-б тое ні каштавала, хутчэй гэтае пытаньне вырашыць так, каб зарплата была выплачана па вылічаных стаўках, а іменна—з таго тэрміну.

Цяпер аб зарплаце па мясцовым бюджэце. Агульны фонд павялічэньня, згодна тых лічбаў, якія мы маем па матар'ялах—22,4 проц. Процант даволі вялікі, калі браць гэтую лічбу. Але калі яе падзяліць на часьці і паглядзець, як і куды пайшла гэтая лічба, дык мы ўбачым, што непасрэдна на павялічэньне зарплаты пайшло ўсяго 7,9 проц. з 22,4 проц., рэшта, 14,6 проц., пайшлі на аплату новых штатных адзінак, правільней, больш усяго на аплату тых штатных адзінак якія перайшлі з дзяржбюджэту на мясцовы бюджэт. Прычым, калі яшчэ ўзяць 7,9 проц. і паглядзець, якім групам мы павялічым зарплату ў гэтым годзе, дык зусім нязначны процант трапіць на павялічэньне зарплаты адсталым групам работнікаў па мясцовым бюджэце. І дзеля гэтага я лічу, што ў наступным годзе наша ўвага павінна быць

накіравана на павялічэньне зарплаты іменна гэтым адсталым групам нізавога савецкага апарату: працаўнікоў асьветы і мэдычным працаўнікоў (гэта асноўныя і вялікія групы адсталых работнікаў). У наступным годзе іх трэба будзе падняць.

Яшчэ ненормальнасьць у зарплаце ў нас, у Менску, а таксама па ўсіх акругах,—гэта дзяржбюджэт і мясцовы бюджэт. Калі мы возьмем акругі, дык зарплата па дзярбюджэце вышэй, чым па мясцовым бюджэце. Гэта стварае ненормальную работу, стварае антогонізм сярод работнікаў. Такая ненормальнасьць перашкаджае нормальнай рабоце, і ў наступным годзе гэта трэба, чаго-б тое не каштавала, ухіліць. Тое-ж самае тут, у Менску: наркаматы і Менакрвыканком. Я лічу, што ў гэтым годзе, зразумела, гэтага правесьці ня ўдасца за адсутнасьцю патрэбных сродкаў, але ў наступным годзе гэтую вялікую ненормальнасьць трэба ўхіліць.

Далей, пытаньне кватэрнага будаўніцтва. Для нас ня нова, што пытаньне пашырэньня, разьвіцьця прамысловасьці, падняцьця вытворчасьці працы рабочых, палепшаньня быту рабочай клясы ўпіраецца ў кватэрнае пытаньне. Дагэтуль зрабілі многа, але ўсё-такі ня ўсё тое, што можна было-б зрабіць яшчэ. Кватэрнае будаўніцтва ў нас не набыло такога тэмпу, які патрэбен у інтарэсах разьвіцьця самое прамысловасьці. І дзеля гэтага, у далейшым трэба будзе, чаго-б тое ні каштавала, гэтае пытаньне прасунуць уперад, каб тэмп кватэрнага будаўніцтва адпавядаў разьвіцьцю нашай прамысловасьці, і водпуск сродкаў павінен быць больш, чым гэта было дасюль. Становішча самое кватэрнае коопэрацыі вымагае таго, каб павялічыць водпуск крэдытаў. Якое мы маем становішча? Мы ўзяліся за організацыю кватэрна-будаўнічай коопэрацыі. Зроблена шмат у гэтых адносінах: рабочыя ідуць, служачыя ідуць, хочуць будаваць, але пабудаваць кватэры за свае ўласныя капіталы ніхто ня можа, а мы ўжо ў гэтым годзе мелі такія выпадкі, калі рабочыя і служачыя зьбіралі 10 проц. патрэбнага капіталу і не маглі атрымаць ніякага крэдыту. Далейшае разьвіцьцё кватэрнай коопэрацыі іменна ўпіраецца ў гэтае пытаньне. Калі ня будуць адпускацца крэдыты, мы ня здолеем зараз стварыць кватэрна-будаўнічую коопэрацыю, 10 проц. капіталу, які патрэбен для таго, каб атрымаць крэдыт, зьбіраецца пры вялікім напружаньні, а дзякуючы таму, што крэдыты не атрымліваюцца, коопэратывы раскідаюцца.

Пытаньне аховы здароўя. У гэтым годзе па мясцовым бюджэце, калі мы возьмем лічбы, дык убачым, што пашырэньне сеткі ішло, галоўным чынам, на вёску. Што мы маем у горадзе? У горадзе палажэньне нездавальняючае: мы маем вялікі рост прагулаў сярод рабочых не па іх віне, а наадварот—па важных прычынах. Гэта тлумачыцца тым, што ў нас часта прыходзіцца рабочаму чакаць, каб трапіць ў больніцу. Я гэта стаўлю з тым, каб на наступны год у бюджэтах пашырэньне сеткі аховы здароўя было накіравана ў гэты бок.

Калі мы гэтага ня зробім, дык мы будзем мець вельмі дрэнныя вынікі. І апошняе пытаньне—гэта пытаньне асьветы. У гэтых адносінах у нас з кожным годам становішча паляпшаецца, але зараз перад намі настойна стаіць пытаньне, якое неабходна ў далейшым вырашыць—гэта пытаньне асьветы рабочае клясы. Зараз сярэдні рабочы, стары рабочы ня можа набыць тае асьветы, якая яму патрэбна. Па ўсяму Саюзу зараз вельмі шырока ўжываецца і разьвіваецца мэтод вячэрняе асьветы—вячэрнія унівэрсытэты, няздольныя унівэрсытэты для рабочых. Таму нам трэба, хоць-бы ў адным цэнтры, у Менску, абавязкова дабіцца на будучы год організацыі аднаго та-

кога унівэрсытэту, каб рабочы, працуючы на вытворчасьць, не адрываючыся ад самой вытворчасьці, мог-бы атрымаць гэтую асьвету. Бяз гэтага рабочаму, бязумоўна, цяжка быць кіраўніком, гегемонам у нашай краіне.

Старшыня: Слова мае т. Аксючыц.

Тав. Аксючыц: З дакладу і судакладу было відаць, што бюджэт прашоў ужо цэлы шэраг інстанцый як падрыхтоўчага парадку (праводзілася вялікая падрыхтоўчая праца), так і па разгляду пытаньня ў самым Саўнаркоме. А таму я лічу, што тая надзея, якую ўскладае сёньня т. Браўковіч, што мы тут зможам унесьці ў бюджэт вялікія дадаткі і зьмены, зьяўляецца памылковай. Усё тое, што можна было і што трэба было ўлічыць, ужо ўлічана ў процэсе папярэдняе падрыхтоўкі і разгляду бюджэту, і, зразумела, на нашай Сэсіі бюджэт ужо вялікіх зьмен мець ня будзе.

У дакладах зазначаўся цэлы шэраг дасягненьняў па складаньні бюджэту. Я лічу, што гэтыя дасягненьні, як і недахваты (і самі дакладчыкі так зрабілі), трэба падзяляць такім чынам: дасягненьні ў галіне самай бюджэтнай тэхнікі—складаньні бюджэту, і дасягненьні політычныя.

Я лічу зусім правільным заяву, што мы дабіліся ў гэтым годзе вялікіх дасягненьняў у галіне бюджэтнае тэхнікі; інакш і быць не магло: апарат працуе, вучыцца, удасканальваецца, і натуральна, што ён дасягнуў большага ў сэнсе гэтае тэхнікі. Паўтараю, інакш і быць не магло. Зразумела, гэта ёсьць дасягненьне вялікае, бо гэта дае нам упэўненасьць у тым, што і ў будучыне, па меры таго, як апарат будзе яшчэ больш удасканальвацца, мы будзем рабіць памылак усё менш і менш, у параўнаньні з тым, што мы рабілі да гэтага часу.

Але я лічу, што тут зноў-такі няправільнай была пастаноўка пытаньня т. Браўковічам (ён на гэтым крыху спыніўся), што мы на Сэсіі павінны будзем даць ацэнку працы Саўнаркому леташняга году, што нібы СНК бюджэт будучага году прапрацаваў ня так добра. Мы-ж яго зацьвярджалі, можа быць, тыя-ж таварышы, якія тут прысутнічаюць, амаль усе прысутнічалі там. Але ў судакладзе было сказана, што бюджэт мінулага году быў прапрацованы дрэнна, а бюджэт новага году—лепш. Я лічу, што мы на Сэсіі летась зазначалі, што ў бюджэце гэтым, у параўнаньні з па-залеташнім годам, ёсьць вялікія дасягненьні, і гэта было правільна. Былі вялікія дасягненьні летась, ёсьць вялікія дасягненьні і ў гэтым годзе, у параўнаньні з бюджэтам мінулага году. І дзеля гэтага, ня трэба даваць ацэнку працы СНК за мінулы год таму толькі, што бюджэт гэтага году складзены лепш, чым бюджэт мінулага году. Гэты прыклад дакладчыку трэба было падаць для параўнаньня таго, ці ўлічыў СНК тыя памылкі, якія ім самім былі дапушчаны пры складаньні бюджэту (дапушчаны, зразумела, несьвядома, а дзякуючы таму, што мы наогул на памылках вучымся), ці ўлічыў ён гэтыя памылкі. Я лічу, што гэтыя дэфэкты былі ўлічаны СНК і ў гэтым годзе. Трэба думаць, што і ў бюджэце гэтага году таксама ёсьць, і ў будучым годзе СНК іх зноў прыдзецца выпраўляць, таму што без дэфэктаў наогул трудна пакуль што-небудзь яшчэ рабіць, а асабліва такую складаную справу, як складаньне бюджэту. Нават сам т. Васілевіч у дакладзе зазначыў, што Наркамфін яшчэ нават ня ведае, што ў нас павінна абкладацца ў зямельнай рэнце. І гэта правільна. Нават ня ўсе об'екты абкладаньня ўлічаны, так што цяпер цяжка гаварыць, што ў бюджэце, у параўнаньні з мінулым годам, ёсьць вялікія дасягненьні самай бюджэтнай тэхнікі.

Гэта—першая заўвага, якую я хацеў зрабіць.

Зараз я павінен зрабіць другую заўвагу: я лічу, што т. Васілевіч у сваім дакладзе, калі ён гаварыў, што тут ня ўсё было выканана і ня ўсе грошы, адпушчаныя па бюджэту, былі выкарыстаны на тыя патрэбы, на якія яны былі адпушчаны, падаў правільную справку. Адгэтуль таварышы зрабілі вывад, быццам бюджэт мінулага году быў складзены кепска, таму што лясныя прыбыткі былі кепска ўлічаны. Мне здаецца, што ня ў гэтым справа. Летась лясныя прыбыткі не маглі быць улічаны так, як у гэтым годзе. Летась мы прыбыткі ад лясоў вызначылі шляхам гандлёвай наддачы, а значыцца, у гэтым годзе ўжо лягчэй было ўзяць орыентовачныя лічбы гэтых лясных прыбыткаў.

Цяпер адносна справкі т. Васілевіча. Зразумела, правільна, што сродкі, якія былі летась выданы, яшчэ ня ўсе выкарыстаны па таму прызначэньню, якое вызначыў СНК. Я лічу, што аб гэтым наўрад ці трэба было гаварыць на Сэсіі ЦВК, але калі пытаньне ўзьнята, дык я хачу даць другую справку. Гэтыя грошы былі атрыманы ў канцы бюджэтнага году, прыкладам, у кастрычніку і нават у лістападзе, г. зн. ужо ў пачатку, нават, гэтага году. Верна, што ў нас ня ўсё яшчэ добра ў сыстэме сельска-гаспадарчае кооперацыі і ў сыстэме выканаўчых камітэтаў, якія гэтыя грошы атрымалі і павінны былі іх своечасова выкарыстаць, але ўсё-ткі многае залежала і ад таго, калі гэтыя грошы былі атрыманы. Перш за ўсё, на гэтыя грошы ніхто не разьлічаў у пачатку бюджэтнага году, таму што яны зьяўляюцца лішкамі ад лясных паступлепьняў, як сказаў сам т. Васілевіч, і значыцца, гэтыя паступлепьні маглі быць ужо тады вядомы, калі выявіліся гэтыя лішкі, г. зн. у канцы году. Таму і ясна, што ня ўсе грошы цалкам былі выкарыстаны. (В а с і л е в і ч: А па пазыцы?)—Па пазыцы гаспадарчага аднаўленьня. Я-б па гэтым пытаньні таксама не хацеў гаварыць, але таксама прымушаны даць справку. Белсельбанкам па пазыцы атрымана 97 тыс. руб., прычым грошы гэтыя былі атрыманы ўвосень, а частку мы атрымалі ў кастрычніку, г. зн., мы гэтыя грошы таксама атрымалі позна і таму ня ўсе яны былі выкарыстаны.

Але, з другога боку, канечна, т. Васілевіч мае рацыю, калі кажа, што ў тых організацыях, якія маюць мала грошай, ёсьць тэндэнцыя затрымліваць грошы ў звароце. Але тут-жа павінен сказаць, што банк гэтае тэндэнцыі ня мае. Я сьцьвярджаю, што мы гэтых грошай не выдавалі таму, што мы не спадзяваліся на гэтых заёмшчыкаў, што лічылі, што гэтыя грошы ня будуць выкарыстаны па правільным прызначэньні, а таксама таму, што намі гэтыя грошы былі позна атрыманы, і мы ня мелі таму своечасова складзеных плянаў, паколькі мы не маглі прадбачыць, што мы гэтыя грошы атрымаем.

Калі далучыць гэты дадатак да тае заявы (зусім правільнай), якую зрабіў т. Васілевіч, дык малюнак будзе поўны. Так што вінны не адзін бок. Я ня думаю, што тут вінен СНК або Наркамфін у тым, што грошы гэтыя позна атрыманы; я лічу, што ніхто з нас ня вінен, бо ніхто ня ведаў аб тым, што гэтыя грошы наогул павінны паступіць, што яны паступяць у канцы году.

Цяпер заўвагі, якія дакранаюцца непасрэдна бюджэту. Я буду тут гаварыць аб дасягненьнях у бюджэце другога парадку. Не аб дасягненьнях у бюджэтнай тэхніцы, а аб дасягненьнях, я-б сказаў, экономічных. Перш за ўсё я лічу, што па прыбытковай частцы (мы аб гэтым гаварылі ў СНК, і я памятаю, што ў пратаколе СНК было адзначана гэта становішча) у нас можа з ляснымі прыбыткамі ў будучым будзе няважная штука, тады калі мы ня будзем мець тых лясных

прыбыткаў, якія мы называем па зямельнаму фонду. Між тым, гэтыя прыбыткі з бюджэту складаюць вялікую лічбу,—здаецца, каля 6 міл. руб. І вось, можа трапіцца такі год, калі ў нас гэтага зямельнага фонду ўжо ня будзе, нам прыдзецца гэту стацьцю, якая складае каля 6 мільёнаў руб., выкрасьліць з бюджэту, а я баюся, што другімі прыбытковымі паступленьнямі мы гэтыя 6 мільёнаў не пакрыем, так што ў нас у пэўны год можа быць зьмяншэньне прыбытковае часткі (праўда, можа быць не для нас асабіста, але і для Саюзу). Мы тады казалі ў СНК аб гэтым, і я сам выступаў па гэтаму пытаньню ў СНК і лічу, што Сэсіі ЦВК трэба таксама тут аб гэтым гаварыць, каб гэтыя лясныя прыбыткі, паступленьні ад земфонду лічыць надзвычайнымі прыбыткамі, а ня прыбыткамі звычайнымі. У супраціўным выпадку лясныя прыбыткі ў нас у адзін пэўны год дадуць скок уніз, і гэта будзе дрэнна для ўвязкі нашага бюджэту аднаго году ў адносінах да другога. Я не кажу, якога году гэта тычыцца, але, згодна нашых меркаваньняў, гады праз два зямельны фонд будзе рэалізаваны, і тады будзе нормальная гадавая лесасека. Ясна, гэтая лічба павінна будзе выпасьці. Я лічу, што неабходна ў балянсе ўставіць нейкія іншыя артыкулы, а ня простыя падаткі.

Вось тыя лічбы, якія прыводзіў тав. Васілевіч. Ён казаў, што з імі таксама лёгка спрачацца, як і давесьці. Гэта правільна. Самая асноўная спрэчка можа быць з-за таго, на колькі разьвіваецца ў тэй ці іншай ступені гаспадарка і прамысловасьць. Ясна, што Менская акруга будзе мець больш выдаткаў, бо тутака будзе больш будаўніцтва, чымся ў іншых акругах. Разумеецца, цяжка здаволіць прэтэнзіі Полацкае акругі, адносна якой таварыш Браўковіч сказаў, што Полацкую акругу зьневажаюць, тымчасам як Бабруйская і Віцебская растуць. Гэта зусім правільна. Яны будуць расьці, бо яны зьяўляюцца большымі экономічнымі цэнтрамі, у іх большая прамысловасьць, і яны, відаць, будуць займаць большае месца ў бюджэце, чымся Полацкая акруга.

Тав. Васілевіч правільна зрабіў, калі ў сваім дакладзе агаласіў усе тыя дырэктывы, якія дала Сэсія ЦВК, і наколькі гэтыя дырэктывы выкананы. Я лічу, што правільна зрабіў тав. Васілевіч, завастрыўшы ўвагу Сэсіі, каб яна гэта зазначыла, але ён мала завастрыў увагі на асноўнай дырэктыве,—гэта на большым скарачэньні адміністрацыйных выдаткаў, на большым водпуску сродкаў на гаспадарку. Я лічу, што гэтая дырэктыва намі ня зусім выканана, або, мягка кажучы, зусім ня выканана. Для прыкладу я хачу падаць тыя лічбы, якія маюцца ва ўсіх таварышоў. Я гаварыў з працаўнікамі Наркамфіну аб гэтых лічбах, і яны кажуць: «Гледзячы, што тутака ўзяць». Але ўзяць тутака можна па ўсяму Саюзу адны лічбы. Я бяру ўзрост трох рэспублік, узросту іншых рэспублік я не бяру, бо ён зьяўляецца нехарактарным. Узрост РСФСР выражаецца ў 33 проц., УССР—у 31 проц., БССР—у 27 проц. Я лічу недапушчальным узрастаньне беларускага бюджэту ў адносінах да РСФСР і Украіны ў больш паменшаным проданце, чымся тутака зазначана ў дакладзе бюджэтна-фінансавай сэкцыі прэзыдыуму Дзяржпляну. Разумеецца, гэта ёсьць прэтэнзіі да Савецкага Саюзу для таго, каб нам павялічылі датацыю, бо Беларусь зьяўляецца пацярпеўшай больш, чымся РСФСР і Украіна. Але вось далей, калі мы прасочым узрост гэтага самага проценту, дык у РСФСР усе выдаткі на прамысловасьць і сельскую гаспадарку, г.-зн. на адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі, выяўляюцца ў 25,8 проц., г.-зн. у ёй застаецца на прамысловасьць 8 проц. У УССР—26 проц., у яе таксама застаецца на прамысловасьць каля 6 проц., у БССР—24 проц.,

г.-зн. у нас атрымліваецца ўзрост гаспадарчых выдаткаў на прамысловасьць і сельскую гаспадарку на 3½ проц. Такім чынам, мы бачым тутака меншы ўзрост, чымся ў РСФСР і Украіне (Сьцепанюк: А якая прамысловасьць там і ў нас?). Там, я думаю, таварыш Сьцепанюк, большая, а ў нас меншая, і дзеля гэтага ў нас узрост прамысловасьці павінен быць большы, на што я хацеў зьвярнуць увагу Сэсіі. Я лічу, што тутака нельга было дасягнуць большага пры цяперашняй структуры нашага апарату, як сказаў тав. Васілевіч, бо ісьці па лініі скарачэньня кур'ера або машыністкі, як правільна казаў тав. Васілевіч, вельмі цяжка, і гэта дае вельмі нязначны эфэкт у бюджэце. Тутака трэба завастрыць пытаньне, што і зрабіў тав. Васілевіч, што неабходна даручыць ураду пайсьці,—я-бы толькі больш рэзка выразіўся, чымся тав. Васілевіч,—на рацыяналізацыю апарату. У нас разумеюць так, што трэба рацыяналізаваць мой апарат, у мяне, ва ўстанове. У нас ёсьць вельмі многа апаратаў, якія трэба злучыць або зусім ліквідаваць, якія працуюць паралельна адзін з другім, якія конкуруюць і робяць адну і тую самую працу. Трэба больш рэзка паставіць пытаньне аб рэорганізацыі нашага апарату. Трэба гэтае пытаньне рэзка завастрыць, бо мы і ў далейшым ня здолеем мець у бюджэце поўнасьцю такога становішча, якога-б мы жадалі. У далейшым будзем расьці за кошт адміністрацыйных выдаткаў і ня будзем расьці ў справе адбудовы народнай гаспадаркі.

Старшыня: Слова мае тав. Дубіна.

Тав. Дубіна: Таварышы, разумеецца, мы маем вялізныя дасягненьні ў адносінах складаньня дзяржаўнага і мясцовага бюджэту, маем вялізны ўзрост на працягу мінулага году, потым маем досьлед, асабліва за апошні год, які быў выяўлены ня толькі тутака, пры складаньні бюджэтаў, але таксама і на мясцох. Што зьяўляецца асноўным недахватам нашага бюджэту? Само сабою разумеецца, што наша рэспубліка, як нацыянальная рэспубліка, якая была ў свой час вельмі разбурана, вымагае вялікіх выдаткаў на адбудову нашай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва, і дзеля гэтага, натуральна, мы маем наш бюджэт дэфіцытным у гэтым годзе, і гэтая дэфіцытнасьць будзе мець месца і ў бліжэйшыя гады. Апрача таго, мы моцна залежым ад Масквы, ад цэнтру. Калі ўчора тав. Зяньковіч казаў адносна самадзейнасьці насельніцтва, адносна прыцягненьня мас хоць-бы да складаньня раённых бюджэтаў, дык трэба сказаць, таварышы, што з прычыны дэфіцытнасьці нашага бюджэту, пры складаньні яго мы, калі можна так выразіцца, кідаемся з гэтым бюджэтам. Мы складаем раённыя і акруговыя бюджэты. Затым, гэтыя раённыя і акруговыя бюджэты тут і ў цэнтры карэнным чынам перакройваюцца. Перакройваюцца таму, што пры складаньні бюджэту ў нас няма ўпэўненасьці ў тым, якую дапамогу мы атрымаем ад цэнтру, а зразумела, у залежнасьці ад атрыманьня гэтай дапамогі, мы ня можам грунтоўна складаць нашы выдаткі, складаць нашы гаспадарчыя пляны. Возьмем хаця-б, для прыкладу, субвэнцыю: у пачатку году, пры складаньні нашага бюджэту, мы маем на ўвазе атрымаць ад цэнтру субсыдыю ў 2.700.000 руб., і, вядома, за кошт гэтай субвэнцыі мы памяркоўна, зразумела, разьлічалі на большае атрыманьне сродкаў для разьвіцьця нашае раённае прамысловасьці. Бюджэт наш яшчэ да гэтага часу канчаткова не збалянсаваны, і тыя лічбы, якія мы ўчора тут заслухалі, усё-ткі зьяўляюцца орыентовачнымі. Гэтым я хачу сказаць, што ініцыятыва месц і ініцыятыва самога насельніцтва пры складаньні раённага бюджэту слаба выяўляецца. Гэты недахват, на мой погляд, зьяўляецца асноўным і агульным недахватам у складаньні бюджэту. У да-

лейшым я маю на ўвазе, што пры складаньні бюджэту, асабліва акругоўвага, трэба загадзя мець больш цьвёрдыя лічбы ў адносінах да тых датацый і субвэнцый, якія будуць адпускацца Саюзным урадам Гэтым самым складаньне бюджэту будзе вельмі палепшана.

Учора т. Васілевіч гаварыў адносна росту бюджэту, паказваючы лічбы па акругах. Я лічу, што наш бюджэт у адносінах разьмеркаваньня, у адносінах накіраваньня яго выдатковай часьці ня можа грунтавацца на разьліку на душу насельніцтва. Я маю на ўвазе, што разьмеркаваньне сродкаў павінна ісьці па лініі вытворчых прынцыпаў, паколькі бюджэт зьяўляецца гаспадарчым плянам, з дапамогаю якога мы будуем нашу гаспадарку. Дзеля гэтага мне здаецца, што прыведзеныя т. Васілевічам лічбы ні ў чым не пераконваюць і ня могуць служыць паказальнікам, у якой меры правільна разьмяркоўваецца выдатковая частка нашага бюджэту. Ясна, таварышы, што тыя акругі, якія зьяўляюцца бездэфіцытнымі, як, напрыклад, Бабруйская, на якую паказваў т. Браўковіч, атрымлівае ўсё-такі больш сродкаў і па мясцоваму бюджэту. Я лічу такое разьмеркаваньне сродкаў няправільным. Усе прыбыткі, якія палучаюцца ў асобных раёнах, павінны накіроўвацца ў агульны кацёл і разьмяркоўвацца па акругах, каб расходваньне сродкаў рабілася роўнамерна ў адносінах усіх галін гаспадарчага і культурнага жыцьця, бо ў праціўным выпадку ў нас выйдзе такое палажэньне, што бездэфіцытныя акругі будуць увесь час расьці, а дэфіцытныя стаяць на адным месцы. Гэта было-б няправільна.

Далей, таварышы, трэба зьвярнуць увагу на надзвычайную напружанасьць прыбытковае часьці нашага бюджэту за кошт неатрыманьня субвэнцый, на якія мы разьлічвалі. Возьмем нашую Магілеўскую акругу. Нам запрапанавана павялічыць прыбытковую часьць свайго бюджэту на 220.000 руб., тую прыбытковую часьць бюджэту, якая і без таго ўжо надзвычайна напруджана. Пры такіх умовах мы ня можам гарантаваць выпаўненьне прыбытковай часьці бюджэту на 100 проц. Прыбытковая часьць павінна быць павялічана на 220.000 руб. На 129.000 руб. мы павялічваем прыбытковую часьць за кошт промпадатку, якую мы ні ў якім выпадку выпаўніць ня можам. Наркамфін гэта, бязумоўна, ведае сам, таму што мы вялі з ім перамаўленьні ў гэтай справе. Потым маецца на ўвазе павялічыць прыбытковую часьць за кошт лясных прыбыткаў на 90.000 руб. Мы гэтыя лічбы самым старанным парадкам пераглядзелі і лічым, што адзінае, што мы можам зрабіць у адносінах павялічэньня прыбытковай часьці нашага бюджэту,—гэта павялічыць прыбытковую часьць на 50.000 руб. за кошт лясных прыбыткаў. Такое палажэньне зьяўляецца вынікам надзвычайнай цэнтралізацыі апарату Наркамфіну і гаворыць за тое, што пры зьмене ў той альбо іншы бок нашага бюджэту, цэнтральныя органы і Наркамфін мала лічацца з намі. Ня ўлічваюць таго палажэньня, якое ёсьць у той альбо іншай акрузе, ня прымаюць пад увагу тых умоў, якія зьяўляюцца зусім відавочнымі і зусім даведзенымі. Ну, таварышы, трэба сказаць, што ўсё-такі, ня гледзячы на тое, што мы ў адносінах бюджэту маем вялікія дасягненьні, ёсьць таксама і недахваты пры складаньні бюджэту. Асноўным недахватам зьяўляецца тое, што асноўны бюджэт укладаецца ўсё-такі ў цэнтры, а не ў акругах. Мы, акругі, даем толькі папярэднія сводкі альбо папярэднія ведамасьці, даем нашыя дапушчальныя пляны, а канчатковая распрацоўка робіцца тут, у цэнтры.

Цяпер я хачу спыніцца на сельска-гаспадарчым падатку. Выступаўшы тут т. Козыраў акурат гаварыў па справе сельска-гаспадарча-

2*

га падатку. Перш усяго, таварышы, я зусім згодзен з т. Зяньковічам адносна таго, што ў нас зусім ня было ні палітычнай, ні экономічнай перадпасылкі для таго, каб у гэтым годзе агулам прынцыпова зьніжаць адзіны сельска-гаспадарчы падатак, і я лічу, што тут зроблена памылка.

Далей, чаму, ня гледзячы на гэтае зьніжэньне, мы назіраем вельмі слабое паступленьне падатку. Трэба сказаць, таварышы, што калі быў выдадзены новы закон аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, мы гэты закон слаба апрацавалі на мясцох. У нас пры распрацаваньні гэтага закону была вялікая сьпешка, і дзеля гэтага ніякіх зьмен, ніякіх папраўак, якія павінны былі быць зроблены, мы не зрабілі. Дзеля гэтага гэты закон у далейшым ўсё-такі патрабуе значнага перагляду ў бок некаторай яго зьмены. Перш усяго, якія асноўныя недахваты гэтага закону? Асноўныя недахваты гэтага закону зьяўляюцца ў тым, што зараз на практыцы выявілася, што мы ня маем магчымасьці аблічваць адхожыя промыслы. Адхожыя промыслы, якія павінны аблічвацца Наркамфінам, нам абсолютна нічога не далі,—гэта па-першае. Па-другое, у зьвязку з вызваленьнем цэлае групы, цэлае сеткі гаспадарак ад выплаты падаткаў, мы назіраем такі малюнак, што досыць буйныя серадняцкія гаспадаркі, якія маюць па 12 дзесяцін зямлі, а часам і больш, па 10 едакоў, па 4, альбо 5 кароў, а таксама і коняй, зусім вызвалены ад падаткаў. Вось, напрыклад, па нашай акрузе да 800 гаспадарак зусім вызвалены ад усякіх падаткаў (г о л а с з м е с ц а: «П р а в і л ь н а»). У той час, як у нашай акрузе ёсьць шмат бядняцкіх гаспадарак, якія амаль ня маюць быдла, але маюць якіх-небудзь два-тры едакі, плацяць падаткі.

Адсюль, зразумела, у сялянстве няпэўнасьць і нараканьні, некаторае нездаваленьне. Яны гавораць, што вось наша Савецкая ўлада не абараняе бедняка, а між іншым, больш заможная частка сялянства ня плаціць падатку, а мы, беднякі, плацім. Гэта, бязумоўна, зьяўляецца вялікім недахватам у законе па падатку.

Апрача таго, асноўныя вылічэньні об'ектаў абкладаньня падатку, як гэта сяляне гавораць зусім правільна, трэба ўсё-такі вылічаць, галоўным чынам, за лік колькасьці пахаты. Тады гэтым самым будзе праведзена больш правільная палітыка (падатковая) у вёсцы, і затым больш правільна будзе праведзена таксама і падатковая лінія ва ўмовах нашай беларускай вёскі.

Тут тав. Васілевіч у сваім дакладзе, датыкаючыся адміністрацыйных выдаткаў, гаварыў толькі адносна нізавых савецкіх апаратаў, пачынаючы з акругаў і ніжэй. Я лічу, таварышы, што ў адносінах скарачэньня і спрашчэньня нашага адміністрацыйнага апарату многа ўжо зроблена ў акругах. Мы скарацілі нашы адміністрацыйныя акруговыя апараты на 5 проц. па ўсіх акругах, можа быць у гэтым напрамку сёе-тое трэба будзе і яшчэ дарабіць. Але справа ў тым, што таварыш Васілевіч аніводным словам ня выказаўся аб цэнтральным апараце ў адносінах яго рэконструкцыі, спрашчэньня, у адносінах яго большай таннасьці з прычыны праводзеньня рэжыму экономіі і г. д. Гэта гаворыць за тое, што ў гэтым напрамку мы яшчэ нічога не зрабілі. Асноўная наша работа ў галіне правядзеньня рацыяналізацыі нашага савецкага апарату зусім не закранута. Мы пачалі, калі так можна сказаць, са стрэлачніка, пачалі з таго, дзе менш можна выстачыць, менш усяго можна спрасьціць наш апарат, тым больш, што нашы акруговыя апараты знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад цэнтральных апаратаў, паколькі наша работа зьяўляецца да гэтага часу надзвычайна цэнтралізаванай. Правядзеньне рацыяналізацыі з хваста, з

канца, зьяўляецца зусім няправільным. Я лічу, што асноўная наша задача ў гэтым напрамку павінна заключацца ў тым, што мы цяпер павінны ўзяцца за рацыяналізацыю нашага цэнтральнага апарату, імення з цэнтру пачынаць самым рашучым чынам праводзіць гэтую работу. І, зразумела, гэта работа павінна даць тыя вынікі, якія мы стараемся атрымаць у гэтым напрамку.

Цяпер адносна зарплаты (тут ужо многія таварышы застанаўліваліся на гэтым пытаньні). Я лічу, што ўсё-ткі была праведзена досыць правільная палітыка. На працягу гэтага году мы ставілі перад сабой задачу падцягнуць зарплату адсталых груп рабочых і служачых, і на гэтым грунце складаўся і наш бюджэт. Але ў далейшым, я думаю, што той вопыт нормаваньня зарплаты, які быў прыстасаваны адносна Менску і Віцебску, павінен быць пашыраны і на ўсе астатнія акругі. Наогул, гэта трэба ўвесьці, як сыстэму, каб адносна зарплаты ў дзяржаўным і мясцовым бюджэтах ня было такой розьніцы. Я лічу, што ў гэтым напрамку Сэсія павінна будзе даць самую станоўчую дырэктыву.

Апошняе пытаньне тав. Васілевіча было адносна водпуску сродкаў на гаспадарчае будаўніцтва акругам. К вялікаму жалю, трэба сказаць, што ён меў рацыю. У гэтым грэшна бывае кожная акруга. Гэта тлумачыцца ўсё-ж такі тым, што да сучаснага моманту наша фінансавая палітыка, нашы фінансавыя пляны, зьяўляючыся ў асноўным і гаспадарчымі плянамі, ня ўвязаны з нашым гаспадарчым будаўніцтвам. Гэта агульны наш недахоп. Амаль што ўсюды акругі патрабуюць водпуску сродкаў, дапусьцім, на пабудову якога-небудзь невялікага прадпрыемства мясцовага значэньня, пабудованага на мясцовай сыравіне і г. д., альбо, напрыклад, на мясцовую раённую прамысловасьць. Пры гэтым яны зусім ня маюць асабістага, вывучанага і зложанага пляну гэтага гаспадарчага будаўніцтва. Напрыклад, адпускаюцца сродкі, а пытаньне зусім непадрыхтаванае, ня вывучанае, і дзеля гэтага адпушчаныя сродкі марнуюцца, альбо выкарыстоўваюцца, раздаюцца на вэксалі. Гэта з аднаго боку, а з другога боку—наадварот: калі цэнтр, ня ўлічаючы мясцовых магчымасьцяй, часамі сам адпушчае гэтыя сродкі па свайму вызначэньню. У далейшым, вядома, гэты недахоп трэба самым рашучым чынам зьніштожыць.

Тав. Профэрансаў: Таварышы, наша Беларуская рэспубліка зьяўляецца аднэй часткай агульнага нашага Савецкага Саюзу, і дзеля гэтага ўсе працэсы экономічнага і палітычнага характару якія адбываюцца па ўсёй Савецкай дзяржаве, таксама пераламляюцца і ў нас. Гэтае пераламленьне экономічных і палітычных працэсаў праходзіць да самага сельсавету, да кожнага паасобнага сялянскага двара, да кожнай паасобнай фабрыкі і заводу.

Мы дасканала ведаем, што большая частка нашай працы залежыць, разумеецца, ад тых матэрыяльных рэсурсаў, якія мае дзяржава. І дзеля гэтага нам трэба зараз прасачыць, ці правільна мы складаем нашы гаспадарчыя пляны, ці правільна мы ўвязваем нашы разьлічэньні з тымі патрэбамі, якія вышываюцца нашай запраўднасьцю, нашым жыцьцём. І вось, таварышы, прааналізаваўшы наш бюджэт, мы, разумееца, можам канстатаваць, што мы зусім правільна працуем, зусім правільна разьвіваемся і здавальняем патрэбы пастолькі, паколькі гэта магчыма, і пастолькі, паколькі гэта патрэбна.

Дзяржаўная палітыка і практыка вызначаецца дзьвюма акалічнасьцямі: палітычным станам дзяржавы і матэрыяльнымі рэсурсамі. Таварышы, я аб палітыцы казаць ня буду. У першым дакладзе, у дакладзе т. Адамовіча, гэта ясна паказана. Таварышы, якія выступалі, гэ-

та пацьвердзілі. Я, таварышы, хачу сказаць, што мы цяпер з нашымі матэрыяльнымі рэсурсамі спраўляемся правільна. Перш за ўсё, мы адзначаем рост нашага бюджэту. Ва ўсіх галінах мы адзначаем рост нашага бюджэту. Адзначаючы рост бюджэтаў у акрузе, мы ўстанаўліваем, што непадатковыя прыбыткі, нашы падатковыя крыніцы разьвіваюцца. Такім чынам, агульнае палітычнае і экономічнае становішча ў поўнай меры ўвязана з агульнай нашай Савецкай дзяржавай. Разумеецца, у кожнай тэрыторыі, у кожнай акруге, у кожнай рэспублікі маюцца свае спэцыфічныя асабліваасьці, аб якіх можна было-бы пагаварыць, каб пазбыцца памылак, якія часам перашкаджаюць працаваць.

Перш за ўсё, я хацеў-бы спыніцца на старым пытаньні, аб якім казаў т. Браўковіч. Мы ўжо пражылі поўгода, і зараз гаворым аб бюджэце бягучага году. Але калі нам прыдзецца скарачаць нашы выдатковыя артыкулы, калі мы не дабярэм прыбыткаў, якія вызначаны па бюджэту, значыцца ў канцы году ма павінны нешта зрабіць, каб зьвесьці канцы з канцамі. З 1-га кастрычніка мы гэтага зрабіць не маглі, і дзеля гэтага наш бюджэт, праходзячы пэўныя ўрадавыя інстанцыі, атрымліваў зьмены. Якасьць бюджэту будзе тады добрай, калі мы падлічым, яго, утворым нашы пляны, і яго ня трэба будзе, прынамсі, у асноўнай частцы зьмяняць. І між іншым, мы, прасачыўшы выкананьне дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў за мінулы год, адзначаем наступнае: 1) недабор па непадатковых прыбытках, мае месца і перабор, калі прыняць пад увагу лясныя даходы.

Што гэта азначае?—Гэта азначае парушэньне нашых плянаў, пагоршаньне нашай працы.

2) Ёсьць выдаткі накіраваньня сродкаў не па назначэньню.

Што гэта азначае?

Гэта таксама вызначае якасьць нашай работы. Гэта вызначае тое, што мы, мабыць, бяз руля і без вятрыл будуем іншы раз нашу работу. Такое становішча, зразумела, цярпець нельга ў будучыне, і трэба будзе старацца, каб магчыма менш у наш выдатковы бюджэт уключаць частку сумы, але пастарацца, каб гэтыя ўнесеныя сумы былі цалкам выкарыстаны.

Часта мы задаем сабе пытаньне, што вось рабочым і сялянам надзвычайна дорага каштуе ўтрыманьне дзяржаўнага апарату, трэба было-б яго скарачаць для таго, каб нявытворчыя паразытычныя выдаткі займалі не такое вялікае месца ў нашым бюджэце. Але справа ў тым, што скарачаць трэба, зразумела, з толкам. Што гэта азначае—скараціць выдаткі на 10, 7, 5 проц.? Трэба да кожнай адзінкі, якую мы скарачаем, падыходзіць з толкам, толькі можа ў аднэй акрузе ці ў адным Наркамаце можна скараціць на 15 проц., а ў другім месцы можна скараціць толькі 3 проц. А такая-ж агульная ўраўнілаўка зусім немагчыма, бо яна ні на што не падобна, гэта ёсьць па сутнасьці ўсякая адсутнасьць разуменьня пляну.

Цяпер я хацеў-бы зьвярнуць увагу на асобнае пытаньне, з якім мы часта ў сваёй практычнай рабоце сустракаемся. Мы маем розныя пляны ў нашай рабоце і ў нашым будаўніцтве, як, напрыклад, плян усеагульнага навучаньня; па гэтаму пляну за пэўную колькасьць гадоў мы павінны пабудаваць пэўную колькасьць школ, адпаведным чынам разьвінуць сетку ўстаноў Соцвыху, дзіцячых дамоў і інш. Гэты плян цяпер выконваецца, але, памойму, ён выконваецца толькі ў колькасных адносінах, у якасных-жа адносінах ён, можна сказаць, ня выконваецца. Калі мы паглядзімо нашы школы, дык убачым, што, зразумела, яны з году ў год паляпшаюцца і, можна сказаць, праз год-

два па якасьці будуць шмат лепшымі, чым раней. Але ва ўсякім выпадку я лічу, што трэба было-б зьвярнуць увагу ня толькі на колькасьць школ, якую мы цяпер устанаўляем, ня толькі на колькасьць тых комплектаў, якія мы ўстанаўляем, але і на якасьць нашых школьных установ. Бо, сапраўды, іншы раз прыходзіцца сустракаць такую школу, з якой дзіця, па сканчэньні яе, праз год-два становіцца няпісьменным, і выходзіць рэцыдыў няпісьменнасьці. А гэта тлумачыцца тым, што школы не абстаўлены досыць добра навучальнымі падручнікамі, а можа быць, і самі школьныя працаўнікі ня досыць падрыхтаваны і г. д.

Тое-ж самае і адносна будаўніцтва. Тав. Браўковіч аб гэтым гаварыў, я яго трохі папоўню. Возьмем, напрыклад, сельскае будаўніцтва: мы будуем у кожным раёне больніцы і сямёхгодкі. Гэта, здаецца, і добра, але паглядзім на ўнутранае абсталяваньне гэтых установ. Памойму, аб гэтым трэба было-б падумаць, больніцы-ж у нас ёсьць, але ў іх недахват мэдыцынскіх інструмэнтаў, няма выстарчаючай колькасьці бялізны і больнічнага інвэнтару. Тое-ж самае і ў школах. У нашых школах нават няма бібліотэчак, і дзеці, за выключэньнем афіцыйных навучальных матэрыялаў, які ім даюць, больш нічога іншага ня чытаюць, і амаль нават ня ведаюць нічога аб нашых клясыках. І вось, выходзіць, што мы, быццам, падрыхтоўваем работнікаў, якія павінны адказваць усім нашым патрабаваньням (а патрабаваньні ў нас, у зьвязку з павышэньнем агульнага экономічнага дабрабыту, таксама павялічваюцца), нашым узрастаючым культурным запатрабаваньням, а між тым мы падрыхтоўваем людзей, якія ня зусім задаваляюць гэтым патрабаваньням.

Нашы тэхнікумы, зразумела,—нічога сабе, лепшыя, як у мінулыя гады: але ва ўсякім выпадку ня шкодзіла-б зрабіць так, каб мець там неабходныя габінэты, усялякія ляборатарыі і ўсё іншае, што патрэбна для прайдзеньня курсу навукі.

Вось я-б і хацеў зьвярнуць увагу на якасьць нашых установ пры выкананьні нашых плянаў як з колькасьцю, так і асабліва ў якасных адносінах.

Аб будаўніцтве. У нас, звычайна, у раёнах прыстасоўваецца тып будаўніцтва утылізацыйны. Усё старое, што там засталося, так як і ў горадзе, мы ўтылізуем, перастройваем, перабудоўваем, але новага, зразумела, хутка зрабіць ня можам. Гэтае ўтылізацыйнае будаўніцтва, зразумела, нам неабходна, але ў некаторых выпадках яно мяжуецца з растратай нашых і без таго невялікіх сродкаў. Дапусьцім, напрыклад, такі момант: мы рэмонтуем школу, і гэта добра, таму што мы ў не адрэмантаванай школе працаваць ня можам. Але часта можна знайсьці, што за гэтыя-ж грошы, якія мы асыгнавалі на рэмонт, плюс тое, што вёска што-небудзь дадасьць, можна пабудаваць новы будынак, а таму можа нам было-б лепей ад старых будынкаў адмовіцца. Мы тут ідзём па лініі найменшага супраціўленьня: нам трэба—мы будуем, але калі мы зварочваем увагу на якасьць, дык тут мы бачым, што выходзіць ня так, як гэта было-б патрэбна.

Цяпер я-б хацеў сказаць адносна стадарцізацыі нашага будаўніцтва. Калі-б мы мелі стандарцізаваны тып школы-сямёхгодкі, школы-прымітыўкі, акружнай або раённай больніцы і г. д., тады-б мы трацілі куды менш сродкаў і куды больш мелі-б ад гэтага карысьці. Вось прыклад: мы будуем у Барысаве больніцу, на якую разьлічваем патраціць каля поўмільёну рублёў. Зразумела, больніца гэтая будзе добрая: на поўмільёна можна пабудаваць вялікую больніцу, але на мільён можна пабудаваць яшчэ лепшую. А можа нам трэба было бу-

даваць больніцу толькі на 250 ці 300 тыс. рублёў і можа быць такая больніца была-б досыць здавальняючай. Гэтага мы ня ведаем. Вось адсутнасьць гэтых стандартаў, адсутнасьць цьвёрдых тыпаў пабудовы. Адсутнасьць пэўнага кіраўніцтва ў гэтым напрамку надзвычайна няпрыемна адбіваецца на ўсім нашым будаўніцтве.

Цяпер, таварышы, я хацеў-бы падняць пытаньне, аб якім мы ў бюджэтнай камісіі гаварылі,—гэта аб магчымым скарачэньні колькасьці нашых акруговых цэнтраў. Зразумела, таварышы, так вырашаць пытаньне—ці скора ў нас будзе 5 ці 7 акругаў,—нельга, але ва ўсякім выпадку, скарачэньне гэтых акругаў магло-б даць значную экономію сродкаў, якія можна было-б ужыць на ўзмацненьне нізавых органаў ўлады. І сапраўды, адзін селянін, які выступаў тут, гаварыў, трэба было-б зрабіць так, каб у нас у сяле быў бюджэт, каб сяляне самі былі зацікаўлены ў будаўніцтве свайго сельсавету. І сапраўды, таварышы, патрэбна, каб мы мелі сельсавецкі бюджэт, каб сельсавет уладаў некаторымі сродкамі, каб ён сам фактычна, а не номінальна, як тут думаюць, абмяркоўваў бюджэт у шырокіх масах сялянства. Але што абгаворваць, зразумела, добра, мы вельмі многа абгаворваем, але можна было-б перапрацаваць пасьля абгаварэньня. Я лічу, што трэба нам прызадумацца адносна нашага сельсавецкага бюджэту. Я, між іншым, вёў гутарку з некаторымі работнікамі раёнаў і там такая тэндэнцыя ёсьць: як-небудзь дабіцца таго, каб само насельніцтва прымала ўдзел у будаўніцтве свайго раёну, свайго сяла, каб яно мела свой бюджэт, тады мы маглі-б праверыць, наколькі гэтая актыўнасьць, аб якой гаворым, адбіваецца ў жыцьці. Узяць, напрыклад, раён,—раённыя работнікі настолькі сталі моцнымі, настолькі добра азнаёміліся з работай і палітычна ўпаўне орыентуюцца, што можна было паставіць пытаньне, каб у раёне гаспадарка была якасьці можна было паставіць пытаньне, каб у раёне гаспадарка была яксьці сконцэнтрыравана. А, між тым, мы бачым на практыцы, што раённыя работнікі складаюць бюджэт і прыводзяць яго ў акругу, а ў акрузе яго так зьмяняюць, што ён варочаецца не ў такім відзе, як быў прадстаўлены. Які-ж сэнс абмеркаваньня бюджэту, калі ён пасьля перапрацоўкі варочаецца да таго-ж насельніцтва ў зусім другім выглядзе; атрымоўваецца адваротны бок мэдалі.

Старшыня: Слова мае тав. Міленькі.

Тав. Міленькі: Таварышы, калі мы разглядаем бюджэт 26-27 году, нам неабходна паглядзець і разьвіцьцё народнай гаспадаркі ў цэлым і ў прыватнасьці нашай прамысловасьці, бо мы ведаем, што прамысловасьць атрымала ў спадчыну зусім застарэлае абсталяваньне, якое зусім не адпавядае вымаганьням савецкай прамысловасьці.

Усе заводы і фабрыкі, якія мы маем, надзвычайна адсталі, ня толькі за час існаваньня савецкай ўлады, але яны былі тэхнічна адсталымі і раней, і па гэтаму зразумела, што яны ня могуць цяпер задаволіць усіх патрэб.

З гэтага вынікае, што неабходна мець сродкі для палепшаньня народнай гаспадаркі ўцалку і, асабліва, для палепшаньня становішча нашых фабрык і заводаў. Дзе-ж гэтыя сродкі можна знайсьці? Іх можна шукаць па двух шляхох: папершае, можна шукаць у самой прамысловасьці шляхам зьмяншэньня сабекошту і шляхам павялічэньня прыбытку для ўкладаньня ў капітал, і, падругое, можна шукаць іх шляхам зьмяншэньня нашых накладных выдаткаў, шляхам зьмяншэньня іх адміністрацыйных выдаткаў, прычым скарачэньне адміністрацыйных выдаткаў трэба, памойму, шукаць ня толькі ў ніза-

вым савецкім апараце, але і ў вышэйшых установах. Можа быць, можна падыйсьці да пытаньня аб пераглядзе існаваньня апаратаў некаторых акругаў і некаторых наркаматаў, якія працуюць роўналежна адзін з другім, і наогул, трэба паставіць пытаньне аб пераглядзе нашай структуры. Калі гэтыя два фактары мы возьмем, мы здолеем будаваць і разьвіваць нашу прамысловасьць.

Я хачу спыніцца на тым, наколькі наш бюджэт прадугледжвае фінансаваньне нашай прамысловасьці, параўнача з мінулым годам. Трэба канстатаваць, што ў гэтым годзе прамысловасьць атрымоўвае менш, чым у мінулым годзе. Калі возьмем 1925-26 год, дык прамысловасьць у бюджэт дала 400.000 руб., у гэтым-жа годзе 1.850.00 р.; значнае павялічэньне. Калі паглядзім фінансаваньне, якое было прадугледжана ў мінулым годзе і ў гэтым, дык мы ўбачым наступны малюнак: у мінулым годзе было прадугледжана 4.200.000 р., у гэтым годзе—4.988.000 р., як быццам колькасна мы ў гэтым годзе атрымоўваем больш, але калі цяпер параўнаем з тым, што атрымалі ў мінулым годзе, і вылічым тое, што ўнесьлі ў бюджэт, мы атрымліваем трохі менш, чым у мінулым годзе. У мінулым годзе мы атрымалі 3.080.000 р., вылічаючы тое, што ўнесьлі, а ў гэтым годзе атрымаем 3.100.000 р. Калі цяпер возьмем тыя зьвесткі, якія ў нас ёсьць, аб тым, як у нас праходзіць наша фінансаваньне цераз Саюзны НФК, дык мы ўбачым, што, ня гледзячы на тое, што на прамысловасьць у гэтым годзе па бюджэце прадугледжана Саўнаркомам Беларусі больш, там яшчэ больш скарачаюць. Заключэньне Наркамфіну па нашым бюджэце гаворыць наступнае: прамысловасьці трэба даваць 3.200.000 р., г. зн. чыстых. Вылічваючы прыбытак, які выбіраецца ў прамысловасьці, застаецца 1.400.000 руб. Калі паглядзім закючэньне Дзяржпляну, дык мы ўбачым, што прамысловасьць трэба фінансаваць на 4.000.000 р. Такім чынам, паводле дзяржпляnaўскаму праекту, мы атрымоўваем чыстых 2.200.000 р., і што чыстых грошай у гэтым годзе мы атрымоўваем шмат менш, чым у мінулым.

З гэтага вынікае, што нам неабходна пры разглядзе бюджэту ў Саўнаркоме Саюзу дабіцца хоць-бы тэй мінімальнай лічбы, якая прадугледжана па дзяржаўным бюджэце, згодна пастановы Саўнаркому, бо калі мы ня здолеем дабіцца, дык фактычна атрымаецца, што народная гаспадарка расьце і атрымоўвае шмат больш сродкаў, чым у мінулым годзе, а прамысловасьць, якую неабходна разьвіваць для ўвязкі з сельскай гаспадаркай, для таго, каб дапамагчы разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, атрымоўвае шмат менш, чым у мінулым годзе.

Цяпер я хачу спыніцца яшчэ на адным пытаньні, якое нам прыдзецца абавязкова вырашыць пры разглядзе нашага бюджэту. Цяпер, у сувязі з далучэньнем Гомельшчыны, згодна пастановы Парытэтнай камісіі, нам трэба выдзеліць 1.174.000 рублёў для папаўненьня мясцовага бюджэту, але, калі не памыляюся, гэтая сума была выдзелена і па бюджэце не прадугледжана. Гэтая сума была прадугледжана па бюджэце РСФСР. З гэтай прычыны нам трэба дабіцца гэтых сродкаў, каб фінансаваць гомельскую прамысловасьць, бо гомельская прамысловасьць настолькі-ж адстала, як і наша прамысловасьць, і таму яе неабходна разьвіваць.

Яшчэ адно пытаньне, на якім я хацеў спыніцца,—гэта пытаньне аб электрыфікацыі. Мы ведаем, што ў нас ёсьць вельмі вялікія тарфяныя залежы, якія ў сучасны момант не распрацоўваюцца. Згодна пастаноў Саўнаркому, мы ў гэтым годзе павінны ўзяцца за пабудову раённай станцыі на Асінаўскім балоце. Было прадугледжана атрыманьне сродкаў у гэтым годзе на гэтую мэту 840.000 р. Я лічу, што

пры разглядзе саюзнага бюджэту абавязкова трэба дабіцца, каб гэтыя сродкі, якія неабходны для пабудовы электрастанціі на Асінаўскім балоце, былі атрыманы. Пабудова электрастанцыі дасьць нам магчымасьць разьвіваць нашу прамысловасьць. Я лічу, што, апрача таго, што мы ў гэтым годзе даб'емся гэтай сумы грошай, нам неабходна яшчэ дабіцца ўключэньня Беларусі ў агульны плян электрыфікацыі. Калі мы гэтага даб'емся, дык з тых сродкаў, якія будуць адпушчаны па агульна-саюзным бюджэце для электрыфікацыі ўцалку, адпаведная сума прыпадае і на электрыфікацыю Беларусі. Калі мы гэтага не даб'емся, дык мы са сваіх сродкаў са сваіх магчымасьцяй ня здолеем разьвіваць у нас электрыфікацыі, і ў кожным асобным выпадку прыдзецца вымагаць ад Саюзнага Саўнаркому ўключэньня ў бюджэт не предугледжаных па агульным пляне сродкаў.

Пры такіх умовах мы нічога не даб'емся. Апошняе пытаньне аб тэрміне складаньня нашага бюджэту. Вядома, было-б шмат лепш, калі-б мы маглі к пачатку новага году разглядзець бюджэт і пачаць работу з зацьвярджэным бюджэтам. У нас цяпер ёсьць становішча, што мы ўжо 4 месяцы працуем, але ня можам разьвінуць нашае прамысловасьці, бо пляны, патрэбныя для разьвіцьця нашае прамысловасьці, яшчэ ня складзены. З гэтага вынікае, папершае, тое, што трэба ўжыць усе захады для таго, каб бюджэт быў разгледжаны да пачатку новага году ці хаця-б у пачатку гэтага новага году. Калі мы паглядзім, калі нам лепш складаць бюджэт, калі нам лепш падлічаць усе нашы магчымасьці, дык, памойму, трэба пачаць складаць бюджэт не ў кастрычніку, але шмат раней. Вось, таварышы, усе тыя пытаньні, якія нам трэба ўзяць пад увагу пры разглядзе бюджэту, вось тыя пытаньні, вырашэньня якіх нам трэба дабіцца чаго-б то ні стала.

Тав. Шварц: Таварышы, я хачу спыніцца аб нашых лясох. Праўда, тав. Васілевіч учора сказаў, што лясы зьяўляюцца самай галоўнай часткай нашых прыбыткаў, і з гэтай прычыны трэба строга сачыць за тым, каб гэты прыбытак ня вычэрпваўся. Мы павінны асьцярожна адносіцца да лясоў для таго, каб лясныя масывы ў нас ня зьнікалі. Я думаю, што тут трэба зьвярнуць увагу на тыя органы, якія ў раёне кіруюць гэтымі лясамі. У мяне ёсьць некалькі фактаў, якія гавораць аб тым, што раённыя лясьнічыя зусім не адпавядаюць свайму прызначэньню. Яны зусім не разумеюць сваіх абавязкаў, яны не разумеюць, як трэба адпушчаць лес, як трэба ахоўваць лес. А гэта-ж самае важнае для нас—гэта ахова лясоў, каб лясныя масывы ніколі ня вычэрпваліся, каб яны складалі і ў будучыне, пры складаньні бюджэту, самы галоўны артыкул. У мяне ёсьць такі факт: у Чэрвені пры водпуску дроў для апалу чэрвеньскі лясьнічы,—ня ведаю—сьвядома ці не сьвядома—прарабіў такую штуку. Пры водпуску дроў з лесу сажань дроў цэніцца 2 р. А ў мястэчку, як усім вядома, насельніцтва складаецца з саматужнікаў і дробных гандляроў. Вось гэты лясьнічы пачаў адпушчаць дровы прыватным гандляром па 2 руб. за куб. саж., а для рэшты насельніцтва, г.-зн. для саматужнікаў—па 10 р. за куб. саж. Саматужнікі былі ў няпэўнасьці, чаму гэта ім трэба плаціць 10 р., тымчасам калі крамнікі плоцяць 2 р. Пасьля доўгай валакіты і непаразуменьняў, урэшце выявілася, што лясьнічы ўнёс у гэтае пытаньне вялікую блытаніну. Справа ў тым, што па 10 р. трэба было плаціць за сажень дроў, якія ішлі на прамысловыя вырабы. Лясьнічы ня мог або не хацеў, разабрацца ў гэтым пытаньні і прымусіў саматужнікаў плаціць па 10 руб. за сажань дроў. Такія памылкі нават у такім выпадку, калі яны робяцца выпадкова, зусім неда-

пушчальныя. Выходзіць, што на мясцох маюцца дровы, а насельніцтва церпіць ад недахопу дроў.

Цяпер я хачу спыніцца на пытаньні аб падатках. У апошні час саматужнікам была зроблена ўступка ў сэнсе прамысловага падатку, але, з другога боку, было зроблена павялічэньне падаходнага падатку—націск у прыбытковым парадку. Па прамысловым падатку, я лічу, зроблена многа ўступак, але самы мэтод я лічу няправільным, таму што вызваляюцца ад патэнтаў, у залежнасьці ад абставін. Але абазначае, што калі саматужнік кравец, працуе і робіць добрую рабазначае, што калі сама тужнік кравец, працуе і робіць добрую работу, ён не павінен выбіраць патэнту, а калі шавец працуе ў якой-небудзь будачцы, дык ён павінен выбіраць патэнт; ён больш бедны—ён павінен выбіраць патэнт, а больш заможны—не павінен выбіраць патэнту.

У стасунку да прыбытковага падатку трэба сказаць, што самае пабудаваньне гэтага віду падатку—шмат лепшае, чым было раней, але яно крыху б'е па бедных саматужніках з тэй прычыны, што раней мінімум абкладаньня быў 800 р., а цяпер—700 р. І весь гэты падатак крыху б'е па больш бедных кустарох. Я лічу, што гэта трэба паправіць.

С т а р ш ы н я: Ёсьць прапанова абвясьціць перапынак на 10 хвілін (прымаецца).

С т а р ш ы н я: Пасяджэньне працягваецца. Слова мае т. Яцкевіч.

Тав. Я ц к е в і ч: Таварышы, агульны ўзрост і ўзмацненьне нашай гаспадаркі знаходзіць свой поўны адбітак і ў нашым бюджэце.

У бюджэце мы маем цэлы шэраг дадатных зьяў. Перш усяго выкананьне дырэктыў у стасунку да павялічэньня асыгнаваньняў на прамысловасьць і на сельскую гаспадарку. У гэтым годзе канчаткова ў стасунку мясцовай прамысловасьці скончана выключэньне прыбытку да разгляду балянсу мясцовай прамысловасьці. У гэтым годзе ўпяршыню ўтвораны прамысловы фонд для мясцовай прамысловасьці, гэта таксама будзе дапамагаць мясцовай прамысловасьці ісьці больш хуткім тэмпам. Праўда, гэты прамысловы фонд амаль на 50 проц. утвораны з адлічэньняў самой прамысловасьці, так што гэтыя 50 проц. былі і ў мінулым годзе, але не праходзілі праз бюджэт. Пасьля ў бюджэце ёсьць таксама 50 проц., якія ўжо адлучаюцца ад самага бюджэту. Апрача гэтага, у гэтым годзе па дзяржбюджэце прадугледжана—праўда, нязначная сума—320.000 р. на разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці, і, здаецца, што ў будучыне мы павінны па дзярбюджэце больш прадугледжваць сродкі на разьвіцьцё і ўзмацненьне мясцовай прамысловасьці, бо, разьвіваючы нашу асноўную дзяржаўную прамысловасьць у нашых умовах, у беларускіх умовах, трэба аддаваць адпаведную ўвагу і мясцовай прамысловасьці. На гэта ў апошні год была звернута ўвага, але яе трэба яшчэ ўзмоцніць.

Наступным момантам для разьвіцьця і ўзмацненьня нашай прамысловасьці павінны быць сродкі на сяле. Усе вы ведаеце, што ў нас ёсьць тры крыніцы спосабу зьбіраньня сродкаў для разьвіцьця нашае прамысловасьці: накапленьні ўнутры самой прамысловасьці, адлічэньні ад бюджэту і, урэшце, сродкі насельніцтва. У стасунку да прыцягненьня сродкаў ад самога насельніцтва для разьвіцьця і ўзмацненьня нашае мясцовае прамысловасьці, саматужнае прамысловасьці, зроблена надзвычайна мала. І перад намі стаіць задача—зрабіць так, каб раённая прамысловасьць па пераапрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай сыравіны была арганізавана з прыцягненьнем сродкаў насельніцтва, як спосабам укладаў, так і праз спосаб арганізацыі па-

асобных прадпрыемстваў, дзе-б можна было злучыць сродкі, напрыклад, сродкі дзяржаўныя і сродкі насельніцтва.

Мы ў нашай акрузе пачалі рабіць такія досьледы ўпяршыню ў гэтым годзе. Але, праўда, першы досьлед быў няўдалы, але ёсьць надзея, што далей можна будзе ўцягнуць сродкі насельніцтва ў організацыю невялікіх, саматужнага віду, прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў нашых раёнах.

Наступны, ужо адмоўны момант у справе будаўніцтва нашай прамысловасьці—гэта познае атрыманьне сродкаў і познае асыгнаваньне. Тав. Васілевіч быў ня праў, калі гаварыў аб тым, што сродкі, асыгнаваныя на прамысловасьць, ня выкарыстаны і што ня бралі пад увагу таго, што гэтыя сродкі атрыманы вельмі позна.

Тав. Аксючыц ужо прыводзіў даныя аб тым, калі былі атрыманы сродкі і з бюджэту і з пазыкі гаспадарчага адбудаваньня. Пасьля атрыманьня сродкаў, да таго, у такім разьмеры, у якім ніводны гаспадарчы орган не прадбачыў (мелася на ўвазе—ці больш, ці менш), ня было магчымасьці гэтыя сродкі выкарыстаць, тым больш, што ў нас з году ў год адчуваецца недахват будаўнічых матар'ялаў. Для таго, каб што пабудаваць, трэба, напрыклад, за год да гэтага падрыхтоўваць будаўнічы матар'ял. Калі, напрыклад, мы цяпер, у студзені, ня зробім адпаведнае ўмовы на дастаўку будаўнічых матар'ялаў, як цэмант, жалеза і г. д., дык можна сказаць напэўна, што будаўніцтва будзе сарвана. У мінулым годзе мы мелі такое становішча, калі сродкі былі атрыманы толькі ўвосень, і зусім зразумела, што нават там, дзе мелася адпаведная програма будаўніцтва, плян і каштарыс гэтага будаўніцтва, яно выпаўнена ня было.

Тав. Васілевіч падаў прыклад адносна карысьці работы па пабудове халадзільніка. Справа ў тым, што на халадзільнік сродкі былі атрыманы толькі ў канцы жніўня, і зімовы пэрыод не дазволіў нам разгарнуць гэтае будаўніцтва ў шырокім разьмеры. Гэтыя сродкі былі атрыманы пасьля доўгіх клопатаў, бо тут была няўвязка ў сэнсе разасыгнаваньня сродкаў між Белсельсаюзам і Наркамфінам. Тое-ж самае можна сказаць і ў адносінах нашых іншых выдаткаў па бюджэце на будаўніцтва. Вось нават зараз, яшчэ ў студзені месяцы, мы ня ведаем канчаткова сумы, якая будзе выдана на будаўніцтва 26-27 г. Гэтыя сумы пакуль што яшчэ вельмі недакладныя і залежаць ад тае субвэнцыі, якую мы атрымаем, і дзеля гэтага зараз гэтае субвэнцыі акругі яшчэ не атрымліваюць, паколькі яна яшчэ не разьмяркована і ня вызначана яе сума. Значыць, падрыхтоўваць цяпер будаўнічыя матар'ялы, хоць-бы той-жа лес, акругі ня могуць, і гэта адаб'ецца на будаўніцтве як у сэнсе якасьці матар'ялаў на будаўніцтва, гэтак і ў сэнсе яго падаражэньня, бо падрыхтоўка будаўнічых матар'ялаў загадзя ня толькі робіць іх больш таннымі, але робіць больш танным і само будаўніцтва.

Такое становішча субвэнцыі ў нас з году ў год паўтараецца. І ў мінулым годзе было такое-ж становішча, калі мы ня ведалі, якая будзе нам дана субвэнцыя і калі яна будзе атрымана. Тое-ж самае становішча мы маем і ў гэтым годзе.

Мне здаецца, што нам трэба паставіць пытаньне аб тым, каб ніякай субвэнцыі па мясцовым бюджэце ня было. Праўда, нашы акруговыя бюджэты амаль усе дэфіцытныя, і таму нам даводзіцца свае выдаткі папоўніць за кошт субвэнцыі. Але мне думаецца, што лепш паставіць пытаньне аб некаторым пераразьмеркаваньні прыбыткаў, г. зн. аб большым процанце адлічэньняў ад дзяржаўных падаткаў і збораў для таго, каб мець поўны і дакладны малюнак, чымся штогод павялічаць субвэнцыі. Так ці іначай, мы патрэбныя сродкі атрымліваем, але толькі атрымліваем не як адлічэньні ў бюджэт, а як субвэнцыі. Значыць, тут

гутарка ідзе толькі аб назначэньні, а калі гэта так, дык лепш павялічыць процант адлічэньняў ад гэтых прыбыткаў каб ужо ўвосень, калі мы канчаткова вызначаем разьмер нашага бюджэту, мы ведалі-б ужо дакладна і рэальна наш бюджэт і маглі-б складаць нашы пляны, ня зрываючы іх і не затрымліваючы. Бо ня толькі пад лініі прамысловасьці, але і па лініі будаўніцтва школ, сельсаветаў і г. д. мы таксама гэтых плянаў мінулага году ня выпаўнілі, зацягнулі і ня скончылі будаўніцтва таму, што і лес быў атрыманы надта позна і самыя сродкі атрыманы таксама надта позна. Дзеля гэтага я высоўваю пытаньне адносна некаторага перараьзмеркаваньня прыбыткаў, каб зусім скасаваць субвэнцыі ў мясцовым бюджэце.

Другое пытаньне—адносна сел.-гас. падатку. Я з тав. Дубінаю згодзен у важнэй часьці, што ў нас сел.-гас. падатак у будучыне трэба пераглядзець у той бок, каб ня было тых недахватаў, якія былі ў гэтым годзе, калі мы болей магутныя гаспадаркі вызваляли ад падатку, а больш слабыя абкладалі. І нам трэба ў далейшым ісьці іменна па лініі, вызначанай ужо цяпер, г. зн. па лініі ўлічэньня ўсяе прыбытковасьці данае гаспадаркі. Пропозыцыя тав. Дубіна аб тым, што мы павінны адмовіцца ад улічэньня землябробскіх заработкаў і ўсю ўвагу зьвярнуць на аблажэньне зямлі, няправільная таму, што ў выніку гэтага будзе няправільна аблічацца прыбытковасьць данае гаспадаркі.

Мне думаецца, што наконт гэтага ў выстарчаючай меры гаварылася і дыскусавалася. Нам трэба ў далейшым працягваць вызначаную сыстэму па лініі падліку ўсяе прыбытковасьці ўсяе гаспадаркі. Трэба ісьці па лініі індывідуальнага падыходу да кожнага двара паасобку, бо тыя недахваты ў галіне сельска-гаспадарчага падатку, якія ў нас былі ў гэтым годзе, тлумачацца тым, што мы не падыходзілі індывідуальна, а падыходзілі да цэлага паселішча агулам, часамі да цэлага сельсавету, ня робячы адпаведных паправак у стасунку да паасобных сялянскіх гаспадарак. У далейшым сельска-гаспадарчы падатак трэба ўдакладніць, маючы на ўвазе індывідуальны падыход да кожнага двара ўпаасобку.

Тое самае трэба зрабіць у стасунку да зямельнае рэнты. Тав. Васілевіч мае рацыю, калі гаворыць, што мы не атрымоўваем таго, што нам трэба атрымаць па лініі зямельнае рэнты, бо мы тут зноў-ткі ўлічаем не індывідуальным парадкам, а ўлічаем зямельную рэнту па раёнах: падзелім горад на паасобныя раёны і па гэтых раёнах улічаем, зусім ня лічачыся з тым, што ўласна на даным зямельным вучастку знаходзіцца: ці пяціпавярховы дом з гандлёвымі памяшканьнямі, ці аднапавярховы дом, без гандлёвых памяшканьняў.

Затым, мы не атрымоўваем усяго таго, што мы павінны атрымоўваць па лініі зямельнае рэнты. Тут наогул няправільны падыход у стасунку да зямельнае рэнты быў у тым, што мы, скарачаючы нашы апараты, скарачалі працаўнікоў у комунальным аддзеле, зусім ня думаючы аб тым, што наличнасьць аднаго агента ў зямельным пад'аддзеле комгасу, які аплачваецца 30—40 руб., выпраўдала-б сябе дзесяткі, сотні разоў, выяўляючы дадатковую зямельную рэнту.

Цяпер у вадносінах увязкі мясцовага і дзяржаўнага бюджэтаў. Мне думаецца, што і ў гэтым годзе ў нас няма адпаведнае ўвязкі між гэтымі бюджэтамі, асабліва па лініі сельскае гаспадаркі. У нас-жа мясцовы бюджэт павінен дапаўняць сабою дзяржаўны бюджэт у справе разьвіцьця і ўзмацненьня сельскае гаспадаркі, а мы часта маем такія здарэньні, калі тая ці іншая акруга або раён, маючы адпаведнае асыгнаваньне па лініі дзяржбюджэту, напрыклад, па мэліорацыі рэчышча вялікіх рэк і г. д., не знаходзяць у сваім мясцовым бюджэце адбітку таго, што павінна ў ім адбівацца і папаўняць выдаткі, якія ідуць па

дзяржаўным бюджэце, у выглядзе організацыі паасобных відаў таварыстваў, па лініі культурна-тэхнікаў і г. д. І таму здараецца так, што мы праводзім за кошт дзяржаўнага бюджэту тое, чаго мы не дапаўняем па мясцовым бюджэце.

Бюджэтная камісія ЦВК у сваёй рэзолюцыі гэта ўжо зазначыла, і нам у будучыне трэба будзе цясьней увязаць дзяржаўны бюджэт з мясцовым бюджэтам па лініі плянаў нашае гаспадаркі, каб гэтыя пляны пагаджаліся з мясцамі. Маюць рацыю тыя таварышы, якія зазначылі, што да гэтага часу ніводная акруга ня мела вестак аб тым, колькі-ж асыгнована па лініі дзяржаўнага бюджэту на тое ці іншае мерапрыемства ў данай акрузе. Гэта не дае магчымасьці зараз складаць пляны і па мэліорацыі, і па зямляўпарадкваньні і па здабываньні торфу і г. д.

Нарэшце, яшчэ адно пытаньне адносна бюджэту—гэта пытаньне аб крэдытах. Крэдыт пачынае набываць усё большае і большае значэньне ў справе разьвіцьця нашае прамысловасьці. Утварэньне Беларускага Комунальнага Банку ў значнай меры дапамагло ўзмацненьню і разьвіцьцю мясцовае прамысловасьці і комунальнага будаўніцтва. Наліч-насьць сельска-гаспадарчага банку, прамысловага банку і коопэрацыйнага банку дала магчымасьць хутчэй рзьвіваць наш гандаль, сельскую гаспадарку і прамысловасьць. Але мы ў Беларусі зусім не выкарыстоўваем электрабанку. Электрабанк нас не фінансуе, ня гледзячы на тое, што пытаньню электрыфікацыі мы аддаем досыць увагі і ў складаньні нашых пэрспэктыўных плянаў, і ў пабудове вялікай раённай станцыі ў Аршанскай акрузе, а таксама пабудове паасобных станцый у гарадох і раёнах. І мне думаецца, што мы павінны паставіць перад Саюзным урадам пытаньне аб тым, каб электрабанк крэдытаваў электрабудаўніцтва ў Беларусі ў такой-жа меры і ў такіх-жа адносінах, як ён крэдытуе электрабудаўніцтва іншых рэспублік.

У заключэньне я хацеў-бы даць некалькі справак наконт лічбаў тав. Васілевіча. У многіх таварышоў можа стварыцца такое ўражаньне, што сапраўды ў Менскай акрузе на душу насельніцтва прыпадае 11 р. 46 к. прыбыткаў, і яна знаходзіцца ў значна лепшых умовах у сэнсе забясьпечаньня ўсіх патрэб насельніцтва, чым іншыя акругі.

Павінен сказаць, што бюджэт Менскай акругі ў гэтым годзе ў значнай ступені абцяжваецца цэлым шэрагам паёў: пай у Сельгасбанк, Комбанк, Аўтапрамгандаль, і павялічэньнем асыгнаваньня вайскведу і г. д. Усё гэта стварае такое палажэньне, што нібы ў нас насельніцтва абслугоўваецца значна лепш, чым насельніцтва іншых акруг у той час, як паі толькі абцяжваюць бюджэт і ствараюць няпраўдзівы малюнак,—гэта першае.

Падругое-ж—Менская акруга мае цэлы шэраг такіх устаноў, якія абслугоўваюць іншыя акругі. У Менску больніцы, якія ідуць па мясцовым бюджэце, абслугоўваюць цэлы шэраг акруг; навочнасьць вялікай колькасьці дзіцячых дамоў таксама ў значнай ступені павялічвае нашы выдаткі. Можна правесьці многа організацый, якія абцягваюць наш бюджэт, не даючы фактычнага задаваленьня крайне неабходным патрэбнасьцям. Калі-ж возьмем іншыя лічбы, пададзеныя ў бюджэце Наркамфіну, дык убачым, што Менская акруга задавольваецца ў значна меншай ступені, чым іншыя акругі; удзельная вага Менскай акругі ў мясцовым бюджэце з году ў год падае. У 1924-25 годзе Менская акруга займала 14 проц., у мінулым годзе—18,7 проц., у гэтым годзе—17,7 проц., у той час, як цэлы шэраг іншых акруг павялічваецца. Удзельная вага Бабруйскай акругі павялічваецца, Барысаўскай таксама, Магілеўскай, Аршанскай, Полацкай таксама, так што ўдзельная вага Менскай акругі ня толькі не павялічваецца, а, наадварот, памяншаецца, і можна

сказаць, што Менская акруга ў часьці росту ў літаральным сэнсе слова займае апошняе месца параўнаўча з мінулым годам. Сярэдняе павялічэньне бюджэту складае 34 проц., сказана ў адным месцы, у другім 32 проц., Менская-ж акруга павялічваецца толькі на 25 проц., у той час як цэлы шэраг іншых акруг 35, 40 і больш процантаў. Гэта ёсьць больш-менш першы паказальнік у адносінах забесьпячэньня нашых патрэб. Апрача гэтага, цэлы шэраг іншых лічбаў гаворыць аб тым, што ў сэнсе задаволеньня найпільнейшых патрэб мы знаходзімся не на першым месцы, як, напрыклад, па лініі выдаткаў на ўтрыманьне раёнаў і сельсаветаў. Тут ужо гаварылі таварышы аб тым, што Бабруйская акруга стаіць на галоўным месцы, а Менская далёка не на першым месцы. Менская акруга на ўтрыманьне раёну выдае 15.184 руб., Бабруйская—16.000, Віцебская—17.000, Мазырская—15.000. На ўтрыманьне сельсаветаў—тое самае. Значыць, іншыя акругі на ўтрыманьне раёнаў і сельсаветаў выдаюць значна больш Менскай акругі. Кошт утрыманьня народнага суда таксама ў Менскай акрузе стаіць значна таней, чым у іншых. Выдаткі на душу насельніцтва па політасьвеце ў нас таксама ніжэй чым у іншых акругах; выдаткі па ахове здароўя на душу насельніцтва таксама значна меншыя; кошт ложка ў больніцы, ня лічачы рэмонту,—бо калі лічыць рэмонт—гэта ня будзе правільным малюнкам,—у нас абыходзіцца менш, чым у іншых акругах. Гэтыя лічбы гавораць досыць ясна за тое, што Менская акруга па частцы задавольненьня штодзённых патрэб займае ня першае месца, а, напрыклад, сярэдняе месца.

А між тым робіцца памылковы вывад, што мы выдаём вельмі многа і таму трэба затрымаць тэмп выдаткаў на гэтыя патрэбы. Мне думаецца, гэта лінія зусім няправільная, бо нам нараўне з падцягваньнем адсталых акругаў і раёнаў трэба не затрымліваць штучным чынам тэмп росту на культурна-соцыяльныя патрэбы і прамысловае будаўніцтва; на такія патрэбы, як на вэтэрынарыю, агрономію, Менская акруга ў гэтым годзе атрымала значна менш, чым іншыя акругі, хоць у нас жывёлагадоўля зьяўляецца досыць важным прадметам сельскае гаспадаркі і ў далейшым павінна разьвівацца шпаркім тэмпам. Штучнае затрыманьне гэтага росту можа няспрыяюча адбіцца на яго разьвіцьці.

Я гэтыя даныя падаў дзеля таго, каб у таварышоў сапраўды не стварылася такога ўражаньня, што з усіх акругаў Беларусі Менская знаходзіцца ў значна горшых умовах, чым цэлы шэраг іншых, бясспрэчна ня маючых дэфіцыту, бо іх дэфіцыт знаходзіцца ў залежнасьці ад выпадковага знаходжаньня на іх тэрыторыі лясоў, таму, што прыбыткі за лясы ідуць у бюджэт данае акругі. Таварыш Дубіна правільна сказаў, што такія даходы ад лясоў павінны ісьці ў агульны фонд рэгуляваньня і разьмяркоўвацца па акругах.

Тав. Шэшэнеў: Таварышы, Аксюціч меў рацыю, калі гаварыў, што пасьля таго, як бюджэт апрацаваны, пасьля таго, як ён перайшоў усе інстанцыі, цяжка ўносіць дырэктывы. Гэта тычыцца 10 акруг, але я лічу, што адносна 2-х далучаных акруг трэба і павінна некаторыя зьмены ўнесьці ў іх бюджэт. Я да гэтага пытаньня зьвярнуся крыху пазьней. Цяпер я хачу зрабіць увагу адносна таго, што казаў тав. Васілевіч, кажучы аб сельска-гаспадарчым падатку, ён казаў, што велічыня гэтага падатку нязначная і дзеля гэтага падатак сялянам плаціць ня цяжка. Але, кажучы аб нязначнасьці падатку тав. Васілевіч не сказаў, як гэты падатак паступае ў паасобных акругах. Ці маюцца ў даных пытаньнях якія-небудзь шурпатасьці. А гэта-ж пытаньне ўдарнае. Мы самі ведаем, што па многіх зразумелых прычынах, якое-б месца ні займаў сельска-гаспадарчы падатак, у бюджэце ён мае вялізарнае політычнае значэньне.

З прычыны гэтага я лічу неабходным, каб тав. Васілевіч у сваім заключным слове застанавіўся на гэтым пытаньні.

Таварыш садакладчык высунуў пытаньне аб тым, каб арганізаваць больш сельскіх бюджэтаў. Мы лічым, што ў гэтых адносінах бязумоўна трэба ісьці на пашырэньне. Чаго можна патрабаваць ад Старшыні сельсавету, калі ён трымаецца ў старане ад работы па складаньню бюджэту. Старшыню сельсавету ня цікавіць глыбока, калі ён не зьяўляецца сам адказным за бюджэт, яго выконваньне і расходваньне. Тут трэба расшырыць рамкі. У нас гэта трудна правесьці, паколькі сельсаветы не ўзбуйнены. У гэтых адносінах беларускія сельсаветы маюць прывілеі. Было-б яшчэ лепей, каб старшыні сельсаветаў выбіраліся не на адзін год, але, прыблізна, на два гады.

Таварыш Васілевіч мяне надта абрадаваў, калі гаварыў аб тым, што дзе больш даходаў, таму вокругу і даць трэба больш. Вядома ў нас шмат лясоў, з прычыны таго маюцца лясныя даходы, і дзеля гэтага нас зусім задавальняе існуючы прынцып. Мы лічым яго ў поўнай меры нормальным. Вядома, існаваньне ў нас вялікае колькасьці лясоў высоўвае станоўчую задачу аб захаваньні. У нас бываюць выпадкі пакражы лясоў. Калі даход ад лясоў будзе праходзіць міма нас, дык тады мы менш будзем зацікаўлены ў захаваньні гэтых лясоў. Я лічу зусім правіловым тое становішча, што калі ў нас больш даходаў, значыць нам трэба даваць больш сродкаў. Вядома, тут ня можа быць такога становішча, аб якім гаварыў тав. Васілевіч: «чым-жа мы вінны, што ў іх больш лясоў». Мы павінны атрымоўваць сродкі параўнальна са сваімі прыбыткамі. Зразумела, калі гэтыя прыбыткі надзвычайна вялікія, то трэба зрабіць некаторае рэгуляваньне. Але рэгуляваньне трэба зрабіць не такое, якое прапануюць т. т. Яцкевіч і Дубіна.

Мяне вельмі цікавіла пытаньне аб выдатках на душу насельніцтва па 10 акругах. Мне надта шкада, што тав. Васілевіч не агаласіў даных аб выдатках на душу насельніцтва і па нашых цяпер далучаных акругах. Я сам агалашу гэтыя даныя. Калі наш дарагі сусед Мазыр атрымлівае на душу насельніцтва 8 руб. 11 кап., дык мы палучаем 5 руб. і некалькі капеек (г о л а с  з  м е с ц а: Але вы яшчэ атрымліваеце з дзяржаўнага бюджэту). Гэтыя лічбы да некаторага столню характэрны. Гэта не зьяўляецца ідэальным разьмеркаваньнем на душу насельніцтва. Тут трэба яшчэ што-небудзь дадаць,—дадатковыя коэфіцыэнты, я аб гэтым буду гаварыць у свой час. Такім чынам у нас складаецца становішча, што мы атрымоўваем 5 руб. на душу ў той час, як суседняя акруга атрымоўвае 8 р. 11 к. Я ўжо не гавару пра Менскую акругу. Не хачу рабіць пярэчаньняў з гэтай акругай. У нас сяляне Юр'явіцкай воласьці заўсёды гавораць: глядзеце, у нас высокія падаткі, а побач, у Беларусі яны куды ніжэй. Да рэчы сказаць, выступаўшы тутака тав. Тамашэўскі з Рэчыцы сказаў, што ў нас падаткі надзвычайна вялікія і г. д. Гэта ня так. Ня гледзячы на тое, што ў нас сельска-гаспадарчы падатак па Гомельскім і Рэчыцкім уездах вышэйшы, чым у Беларусі, усё-ж ён не зьяўляецца настолькі высокім, каб атрымаўся такі малюнак, які намаляваў нам т. Тамашэўскі. Нашы сяляне своечасова плацяць падаткі, яны своечасова выконваюць свае абавязкі бяз усякага ўзьдзейнічаньня на іх. З гэтай прычыны я і павінен унесьці гэту папраўку. Значыць сяляне нам гавораць, што ў нас падаткі вышэй, а мерапрыемствы па будаўніцтву—слабей. Я бяру 205 старонку кніжкі мясцовага бюджэту, ў якой паказана, што ў Мазыры траціцца 240.000 на дарожнае будаўніцтва, а Парэчыцкай акрузе, якая па плошчы ня менш Мазырскай, на дарожнае будаўніцтва разам з апаратам траціцца 31.000 р. Гэта цяжкае параўнаньне.

Цяпер адносна мэліорацыі. Тав. Адамовіч зазначыў, што ў нас забалочана 10 проц. плошчы па Беларусі (Тав. Прышчэпаў—16 проц.). Гэта вашая больш дакладная лічба спэцыяльнае ўстановы, а я добра чуў, што тав. Адамовіч гаварыў, што ў нас, па Беларусі, 10 проц. зямельнае плошчы забалочана. Гэта можна праверыць у стэнаграме. Зразумела, справа ня ў гэтым. А ў нас 24 проц., мы топімся ў балоце. Цэнтр. зьвярнуў на гэта ўвагу і казаў, што сродкі дадуць, калі мы ўнясём што-небудзь. Мы ўнесьлі 90.000 руб., нам абяцалі 150.000 руб., а цяпер пытаньне адпала ў сувязі з далучэньнем да Беларусі.

Цяпер, аб шляхавым будаўніцтве. Я ўжо даваў характэрныя лічбы. Калі ўзяць зямляўпарадкаваньне, то толькі 34 проц. у нас упарадкаванае зямлі. У адносінах кватэрнага будаўніцтва трэба сказаць, што гэтае будаўніцтва ў фабрычна-заводзкіх раёнах мае аграмаднае значэньне. У нас рабочыя ходзяць за 3-4 вярсты на зьмену. Ці можам мы вымагаць ад іх пры такіх умовах падняцьця вытворчасьці працы? Не. Кватэрнае будаўніцтва ў нас было ня разьвіта, таму што ня было водпуску сродкаў, дзякуючы суседзтву з намі трох вельмі дэфіцытных паветаў. І вось, зразумела, трэба зрабіць адпаведны вывад, адпаведная дапамога павінна нам быць дадзена.

Ящчэ характэрны прыклад,—нашы нізавыя крэдытныя ячэйкі з вялікай напружанасьцю зьбіраюць да 30.000 руб. нагрузкі, а калі мы параўналі ў БССР, то вышла ў тры разы больш нагрузкі. Тут можна рабіць адпаведныя мерапрыемствы ў адносінах да беднаты, а адгэтуль і ўзьняцьце гаспадаркі. Вось вам кароткая характарыстыка. Адгэтуль я стаўлю пытаньне, які вывад з данага становішча? А вывад зусім просты. Тав. Васілевіч у сваім дакладзе проста сказаў, што ў нас, у зьвязку з далучэньнем Гомеля і Рэчыцы да Беларусі, зьявіўся астатак дзярж. даходаў у разьмеры 2.000.000 руб. Мы ведаем больш дакладную лічбу (значна больш). Зразумела, справа ня ў тым, каб зазначаць больш дакладныя лічбы, але мы разумеем, што ў стасунку да гэтых 2.000.000 нешта павінна быць зроблена. Мы, зразумела, скромныя, але ў той-ча час, дзеля палітычнага моманту, мы паставілі пытаньне перад нашым урадам аб правядзеньні дадатковых мерапрыемстваў, і ён павінен задаволіць нашу заяву, тым больш, што я цікавіўся кантрольнымі лічбамі нашага дзяржпляну; Там, на другой старонцы зазначан асноўны прынцып, што мы свае кантрольныя лічбы разьмяркоўваем, маючы на ўвазе падцягваньне адсталых паветаў і акруг. Мы думаем, што гэты прынцып будзе распаўсюджан і на нас у бягучым годзе.

*(Пасяджэньне абвяшчаецца зачыненым).*

